8 мая 2014 | № 18 (387)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Віншуем са святам Перамогі!







# Пракаповіча — на «Шоў экстрасэнсаў»

**Хутка нам у чарговы раз распавядуць, як нам будзе жыць лепш і весялей.**



Сяргей ПУЛЬША

У Беларусі створана рабочая група для падрыхтоўкі праекта асноўных напрамкаў бюджэтна-фінансавай і падатковай палітыкі на 2015 год, сярэднетэрміновай фінансавай праграмы на 2015–2017 гады і яе ўвязкі з найважнейшымі параметрамі прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця і асноўнымі напрамкамі грашова-крэдытнай палітыкі.

Кіраўніком групы прызначаны намеснік прэм'ер-міністра і айцец беларускіх дэвальвацыяў Пётр Пракаповіч, намеснікамі кіраўніка — міністр эканомікі Мікалай Снапкоў і намеснік міністра фінансаў Максім Ермаловіч. У склад рабочай групы ўвайшлі таксама прадстаўнікі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, Нацыянальнага банка, Міністэрства па падатках і зборах, парламентарыі. Гэтая ж група будзе каардынаваць працу па падрыхтоўцы праекта закона «Аб рэспубліканскім бюджэце на 2015 год».

Усё гэта робіцца ў сітуацыі, калі будучыня непрадказальная. З пачатку 2015 года павінен запрацаваць ЕАЭС, але ці запрацуе? А калі запрацуе, ці будуць скасаваныя ўсе мытныя бар'еры і галоўнае — пошліна на экспарт нафтапрадуктаў? Якія паказнікі ў нас будуць у гандлі з Украінай — трэцім па велічыні нашым гандлёвым партнёрам пасля Расіі і ЕС? Ці будзе прынятае палітычнае рашэнне пра дэвальвацыю або дэнамінацыю з «грашыма, падобнымі да еўра», у той час, калі ані для першага, ані для другога не існуе спрыяльных паказчыкаў? У такіх умовах ці звярнуцца да медыума і «павярцець талерачку» альбо пагадаць на гушчы кавы, ці рабіць «эканамічна выверанья» прагнозы — вынік будзе аднолькавым.

Вось і эканаміст Барыс Жаліба кажа: «Каб я быў прыхільнікам эканамічнага шляху сённяшняй улады, я б зрабіў бы ўсё, каб у такую камісію не ўваходзіць». Бо наступствы ўкраінскага канфлікту — гэта не толькі таваразварот з Беларуссю, а і санкцыі супраць Расіі, што адаб'ецца і на самой Расіі, і на Беларусі. «Шчыра кажучы, я не бачу перспектываў беларускай эканоміцы зараз, акрамя як у звязку з Расіяй. Мы ўсё больш залежым ад Расіі, і ў нас зараз вельмі вузкае поле для манеўраў. Таму, як ні круці, а, хутчэй за ўсё, прыйдзецца прадаваць Расіі актывы, усё больш буйныя, што яшчэ больш будзе павышаць уплыў Расіі, і гэтак далей», — лічыць Жаліба.

Тое, што павінна быць у гэтай праграме, на думку Жалібы, улады рабіць не будуць. «Каб развівацца, трэба мяняць эканамічную стратэгію і тактыку. Нам трэба праводзіць не «мадэрнізацыю», а інфраструктурную рэформу эканомікі, больш увагі надаваць прыватнаму бізнэсу, змяншаць уплыў дзяржавы, і, нарэшце, разварнуцца на Захад, дзе ёсць і капітал, і неабходныя тэхналогіі для развіцця. Аднак улада на гэта не пойдзе, бо яна не бачыць свайго існавання без Расіі, і без расійскай жа дапамогі не здолее ўтрымліваць гэтую ўладу», — лічыць Жаліба.

Былы старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч увогуле лічыць, што з такой камісіяй улада паставіла воз наперадзе




**Беларуская ўлада не бачыць свайго існавання без Расіі**

каня. «Фінансы — гэта службовы інструмент эканомікі. З працай такой камісіі трэба пачакаць, і чакаць трэба не сканчэння ўкраінскага крызісу альбо ЕАЭС, а фармавання нармальнай праграмы эканамічнага развіцця. Нам трэба вызначыць мэты — у прамысловасці, бізнэсе, знешнеэканамічнай дзейнасці і гэтак далей — рэальна і не менш як на 5 год, а ўжо потым, у межах эканамічнай праграмы і зыходзячы з яе мэтаў, рабіць праграму фінансавую», — лічыць Багданкевіч.

У нас ёсць асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнай палітыкі па 2015-ы год, але рэальнымі іх ніхто не назаве. Напрыклад, за гэты час мы павінны былі нарасціць аб'ём ВУП на 62–68%, аб'ём прамвытворчасці — на 54–60%, экспарт — у два разы, уводзіць у эксплуатацыю 10 мільёнаў квадратных метраў жылля на год, а золатавалютныя рэзервы павінны былі дасягнуць не менш як трох месяцаў імпарту, то бок каля $12 мільярдаў. У выніку рост ВУП у нас 0,9% за 2013 год і 1,5% за 2012-ы, ЗВР на 1 красавіка 2014-га склалі $5 мільярдаў 715 мільёнаў, і з астатнімі паказчыкамі не лепш. І на гэтых прагнозах нам будаваць бюджэтна-фінансавую палітыку?

Багданкевіч кажа, што грошы знайсці можна: крэдыты, займы, інвестыцыі, прыватызацыя. Але што рабіць з неэфектыўнасцю эканомікі, падзеннем рэнтабельнасці, інфляцыяй, якую мы не можам спыніць ужо дзесяцігоддзі. «Нам трэба ад пачатку ствараць праграму рэформаў, і не толькі ў эканамічнай сферы. Ніякая эканоміка не здолее развівацца без адказу на знешнія выклікі — значыць, трэба рэформа міжнародных адносінаў. Капітал не прыйдзе ў неправавую краіну — рэформа судова-прававой сістэмы. Новыя тэхналогіі павінны абапірацца на адукаваныя кадры — рэформа адукацыі. І гэтак далей», — адзначае Багданкевіч. Карацей, ён лічыць таксама, як Жаліба, — на такія рэформы ўлада не пойдзе, бо яны пагражаюць самому існаванню гэтай улады.

Такім чынам, калі ўлада і будзе нам распавядаць, як хораша мы будзем жыць у перспектыве ад 2015 да 2017 года, то ўсе гэтыя словы будуць проста казкамі. Так праграмы не робіцца. Можа, Пракаповічу лепш сапраўды задаць пару-тройку пытанняў на «Шоў экстрасэнсаў»?

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### Бабруйск. Звольнілі сябра СПБ

**Адміністрацыя завода Трактарных дэталяў і агрэгатаў працягвае пазбаўляцца ад сябраў Свабоднага прафсаюза Беларускага.**

Не працягнуты кантракты з Аляксандрам Мікіткам, Дзмітрыем Курмазам, Дзмітрыем Сакалоўскім і Сяргеем Пічуговым. 5 мая грузчык складметала АМТС Віктар Осіпаў даведаўся, што з ім таксама не працягнуты кантракт.

«У Віктара Осіпава ў калектыве вельмі добрая рэпутацыя, таму яго калегі адразу звярнуліся да дырэктара завода Аляксандра Аграновіча з хадайніцтвам, — распавядае старшыня пярвічкі СПБ Міхаіл Кавалькоў. — Яны прасілі, каб Віктару працягнулі кантракт. Таксама вельмі добрую характарыстыку яму напісаў начальнік аддзела Алег Кавалевіч. Але, на жаль, гэта не паўплывала на намесніка дырэктара па кадрах і ідэалагічнай працы Уладзіміра Елісеенку. А менавіта ён адзін прымаў гэтае рашэнне, у мяне ёсць арыгінал апавяшчэння з яго подпісам».

### Гродна. Штрафы вынесены абгрунтавана

**6 мая ў Гродзенскім абласным судзе адбыўся разгляд касацыйных скаргаў праваабаронцаў Віктара Сазонава і Уладзіміра Хільмановіча на пастановы суда Ленінскага раёна горада.**

Нагадаем, што 3 красавіка суддзёй Наталляй Козел у раённым аддзяленні міліцыі Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч і Раман Юргель былі прызнаныя вінаватымі ў правядзенні 25 сакавіка нібыта несанкцыянаванага пікету і асуджаныя да выплаты штрафаў — па 25 базавых велічынь кожны. Усё «парушэнне» заканадаўства палягала ў тым, што праваабаронцы ў Дзень Волі сфатаграфаваліся ля помнікаў з бел-чырвона-белымі ды ўкраінскімі сцяжкамі і выставілі фотаздымкі ў інтэрнэце з віншаваннямі жыхарам Гродна. На разглядзе касацыйных скаргаў праваабаронцы даводзілі, што яны не парушылі аніводнага пункту заканадаўства, у тым ліку і Закона «Аб масавых мерапрыемствах», паколькі ніякага пікету насамрэч не было. Віктар Сазонаў і Уладзімір Хільмановіч даводзілі юрыдычную абсурднасць вынесенага рашэння суда, але суддзя не ўзяў пад увагу ніякіх аргументаў і падтрымаў пастанову суддзі Наталлі Козел.

### Брэст. Разгляд справы за тры хвіліны

**5 мая Брэсцкі абласны суд разглядаў касацыйную скаргу Мікалая Чарнавуса на дзеянні старшыні Баранавіцкай-Заходняй выбарчай акругі №21 Ларысы Антонавай.**

Тры хвіліны спатрэбілася суддзі Андрэю Алешчанку, каб пацвердзіць рашэнне суда ніжэйшай інстанцыі. Суддзя абвясціў, што справа Мікалая Чарнавуса непадведамасная суду.

Мікалай Чарнавус лічыць, што старшыня акруговай камісіі №21 Ларыса Антонава парушыла закон, калі не дазволіла яму выступіць перад выбаршчыкамі па баранавіцкім радыё.

«Правы Чарнавуса парушаны, а Брэсцкі аблсуд ухіліўся ад разгляду скаргі Мікалая Чарнавуса па сутнасці. Канстытуцыя гарантуе грамадзянам Рэспублікі Беларусь права звяртацца ў суд і быць абароненымі ў судзе. Таму я лічу, што такі адказ — гэта нежаданне суда аб'ектыўна разабрацца ў гэтай даволі простай справе», — адзначыў праваабаронца з Брэста Уладзімір Вялічкін.

### Ліда. Штрафы і папярэджанні за памяць

**5 мая завяршыўся суд над грамадскімі актывістамі, на якіх за ўшанаванне памяці беларускіх дзеячаў у Дзень Волі былі складзены пратаколы за правядзенне несанкцыянаванай акцыі.**

На могілках у той дзень былі людзі ў цывільным, якія перапісалі прозвішчы ўдзельнікаў акцыі памяці. Ужо 2 красавіка грамадскіх актывістаў пачалі выклікаць у міліцыю. Суд пачаўся яшчэ ў красавіку, але быў перанесены з-за таго, што на працэс не з'явіліся ўсе выкліканыя сведкі. Працэс Сяргея Трафімчыка быў вылучаны ў асобны паводле яго хадайніцтва.

Пяцёра ўдзельнікаў ушанавання памяці — Сяргей Трафімчык, Вітольд Ашурак, Мурат Мусаеў, Сяргей Сідарэнка і Юры Дзяшук — былі прызнаныя вінаватымі і аштрафаваныя на 5 базавых велічынь. Яшчэ двое — пенсіянеры, грамадскія актывісты Міхаіл Бурачэўскі і Станіслаў Суднік былі папярэджаныя.

**Матэрыялы падрыхтаваныя па інфармацыі сайта spring96.org**

# Сям'я Захаранкі супраць Рэспублікі Беларусь

**Напярэдадні 15-годдзя з дня гвалтоўнага выкрадання экс-міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Юрыя Захаранкі ў Камітэт па правах чалавека ААН накіраванае індывідуальнае паведамленне Ульяны і Алены Захаранкі.**



Індывідуальнае паведамленне ад імя сям'і Захаранкі супраць Беларусі падрыхтавана юрыстамі «Беларускага дакументацыйнага цэнтра». Інтарэсы сям'і Захаранкі ў КПЧ прадстаўляе яго кіраўнік — Раіса Міхайлоўская.

У скарзе абгрунтоўваецца цэлы шэраг парушаных Рэспублікай Беларусь агульнапрызнаных міжнародных стандартаў пры расследаванні крымінальнай справы па факце знікнення 7 мая 1999 года экс-міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Ю. Захаранкі: права на жыццё, права на свабоду і асабістую недатыкальнасць, права не быць падвергнутым катаванням і іншаму жорсткаму, зневажальнаму годнасць абыходжанню і права пазбаўленага волі на гуманнае абыходжанне і павагу годнасці, права не быць падвергнутым дыскрымінацыі па палітычных матывах. Ульяна і Алена Захаранка як блізкія члены сям'і таксама з'яўляюцца ахвярамі парушэння правоў, прадугледжаных Пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, паколькі ў выніку гвалтоўнага знікнення іх сына і бацькі і не правядзення дзяржавай добрасумленнага расследавання гэтага злачынства яны на працягу 15 гадоў адчуваюць велізарны эмацыйны стрэс і маральныя пакуты.

Сям'я Юрыя Захаранкі просіць Камітэт па правах чалавека не толькі прызнаць парушэнні з боку Рэспублікі Беларусь правоў Ю. Захаранкі, прадугледжаных артыкуламі 6, 7, 9, 10, 26 у сукупнасці з ч.1 арт. 2 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, і правоў У. Захаранкі і Е. Захаранкі, прадугледжаных арт. 7 Пакта, але і рэкамендаваць Рэспубліцы Беларусь ліквідаваць наступствы дапушчаных парушэнняў і даць эфектыўныя сродкі прававаой абароны: хутка і эфектыўна ажыццявіць крымінальны пераслед і пакаранне асоб, якія падазраюцца ў знікненні Юрыя Захаранкі; ідэнтыфікаваць і паказаць месца пахавання Ю. Захаранкі; прадставіць належную грашовую кампенсацыю.

Адзначым, што гэтая скарга з'яўляецца другім зваротам у КПЧ ААН. У 2011 годзе прадстаўнік сям'і Захаранкі Алег Волчак падаў петыцыю ў Рабочую групу па гвалтоўных і нядобраахвотных знікненнях пры Вярхоўным камісары па правах чалавека ААН. Рабочая група атрымала тры паведамленні ад урада ў перыяд са студзеня па кастрычнік 2012 года. Яна прыйшла да высновы, што прадстаўлены інфармацыі недастаткова для высвятлення справы, і звярнулася да ўрада Рэспублікі Беларусь з просьбай аб наведванні краіны, аднак адказу ад урада не было атрымана. Да цяперашняга часу Рабочай групай не прынята ніякага рашэння, справа знаходзіцца ў стадыі назірання.

# Масавыя зачысткі апазіцыянераў

Генадзь КЕСНЕР

**Дзясяткі актывістаў атрымалі ад 10 да 25 сутак адміністратыўнага арышту. Такім чынам, перад пачаткам сусветнага хакейнага першынства краіна на пэўны перыяд увогуле можа застацца без апазіцыі.**

Крыху статыстыкі. 5 мая суд Фрунзенскага раёна Мінска пакараў на 20 сутак адміністратыўнага арышту грамадзянскага актывіста Мікалая Дземідзенку. Міліцыянты Крук і Зянько кляліся, што маладзён адпраўляў малую патрэбу ў грамадскім месцы ды не рэагаваў на заўвагі прадстаўнікоў праваахоўных органаў. (Згадайце шматгадовай даўніны справу апазіцыянера Вячаслава Сіўчыка — першага «мачашчагася ў грамадскім месцы» апанента ўлады).

У Гомелі асуджаны на 10 сутак арышту «за дробнае хуліганства» актывіст зарэгістраванага ў Чэхіі «Маладога фронту» Андрусь Цянюта. Суд Ленінскага раёна сталіцы на 20 сутак накіраваў за краты актывіста Міхася Мускара. Тая ж структура ў асобе суддзі Міхаіла Хомы пакарала штрафам у 2 250 000 рублёў Зміцера Камянецкага. І зноў-такі за «дробнае хуліганства».

Раней, 25 красавіка, да 25 сутак адміністрацыйнага арышту суддзя Юры Гарбатоўскі прыгаварыў лідара маладафронтаўцаў Зміцера Дашкевіча па сукупнасці двух артыкулаў Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях — за парушэнне правілаў прэвентыўнага нагляду і за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі. Надоечы нядаўняга палітзняволенага затрымалі наўпрост каля пад'езду ягонага дома, калі той вяртаўся дахаты з працы.

Актывіст Максім Вінярскі правёў за кратамі 12 сутак, трымаючы галадоўку пратэсту з прычыны бязглуздага затрымання і суда над ім. «Гуманісты» ад праваахоўных органаў нават не дазволілі медыкам шпіталізаваць захварэлага на ангіну маладзёна, пасля чаго той і вырашыўся галадаваць.

Спіс затрыманых працягваюць Уладзімір Новікаў, Аляксандр Францкевіч, Леанід Смоўж, Юрась Рубцоў, Дзяніс Карноў, Мікола Колас, Алесь Стукін, Аляксандр Курбацкі, Зміцер Карашкоў. Гэта тыя, пра каго стала вядома беларускім праваабаронцам. Не выключана, што колькасць затрыманых большая.

«Мы звязваем усе тыя рэчы, што адбываюцца апошнім часам, выключна з Чэмпіянатам свету па хакеі, — адзначае намеснік старшыні зліквідаванага ўладамі Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч. — Мы маем справу з класічным выпадкам адвольных затрыманняў, калі людзей затрымліваюць не ў сувязі са здзяйсненнем рэальных правапарушэнняў, а ў мэтах іх ізаляцыі. Прычым, па тэрмінах мы бачым, што для некаторых гэта доўгатэрміновая ізаляцыя — на ўвесь час правядзення чэмпіянату свету, і звязана яна выключна з прыналежнасцю людзей да тых ці іншых апазіцыйных груп ці руху. Мы ўжо праінфармавалі рабочую групу па адвольных затрыманнях Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў, і найбліжэйшым часам мы будзем прымаць зварот ад беларускіх праваабарончых арганізацыяў да генеральнага пракурора з патрабаваннем даць прававую ацэнку ўсім гэтым з'явам, якія цяпер адбываюцца».

Тое, што зараз супраць многіх актывістаў заводзяць адміністрацыйныя справы адразу па некалькіх артыкулах, юрыст звязвае з памкненнем уладаў ізаляваць актывістаў на як мага больш час. «Пры такім падыходзе з'яўляецца магчымасць арыштаваць чалавека максімум на 25 сутак, і тут відавочна бачны падыход, скіраваны на доўгатэрміновую ізаляцыю апазіцыянераў, бо чэмпіянат у нас з 9 да 26 мая, таму тут адразу патрабуецца вялікі запас часу», — лічыць Валянцін Стэфановіч.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Хто застанецца незадаволены?

Сяргей САЛАЎЁЎ




**Вось колькі высілкаў мы ўжо паклалі на тое, каб правесці Чэмпіянат свету па хакеі ў Мінску на належным узроўні! Здаецца, усё ўжо вылізана, падлізана і гэтак далей. Аднак жа знойдуцца людзі, якія створаць нам праблемы на пустым месцы. І застануцца незадаволенымі вырашэннем гэтых праблем, канешне ж. Напішуць пра гэта ў інтэрнэтах, а нам потым няёмка.**

Вось кіраўнік Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька на тыдні запатрабаваў, каб службы Мінска неадкладна рэагавалі на «ўсе крытычныя заўвагі і пытанні, якія ўзнікнуць у ходзе Чэмпіянату свету па хакеі». «Ёсць такі прынцып: кліент заўсёды мае рацыю. Таму я патрабую ад кіраўнікоў усіх службаў неадкладна рэагавання на ўсе пытанні, якія ўзнікаюць... Ніякіх пытанняў, якія датычацца функцыянавання сістэмы гарадскога забеспячэння, быць не павінна. Ні адна крытычная заўвага, якая паступіць, не застанецца без увагі», — заявіў Ладуцька.

Пытанне ў тым, калі гэтыя «крытычныя заўвагі» альбо невыканальныя, альбо супярэчаць беларускаму заканадаўству. Напрыклад, расійскія хакейныя ўльтрас захацелі правесці ў Мінску свой Дзень перамогі. Прэзідэнт клуба расійскіх заўзятараў «Russia Unites» Эдуард Латыпаў заявіў, што плануецца арганізаваць калону расійскіх фанатаў і паўдзельнічаць у святочных мерапрыемствах у Мінску.

Праўда, спачатку планавалася асобнае шэсце пад гістарычнай назвай «Рускі марш». Пад такой назвай расійскія «каларады» спрабавалі захапіць Усход Украіны, а ў Расіі «рускія маршы» даўно сталі сінонімам неанацызму і рускага фашызму.

Мінгарвыканкам на тое санкцыю не даў. Таму расійскія заўзятары хакею заявілі, што прымуць удзел у дэманстрацыі ў гонар Дня перамогі «на агульных падставах» — уліцца ў калоны мітынгуючых ім, нібыта, ніхто не забароніць.

У Расіі такое «ўліванне ў калоны» ледзьве не заўсёды заканчвалася бойкамі. Што зараз будзе рабіць беларуская міліцыя — невядома. З аднаго боку, замежных турыстаў, хоць яны і расійскія, дадзены загад «аблізваць». З іншага — яны могуць прынесці вельмі шмат непрыемнасцяў. І тут не адхрысцішся, што нібыта міліцыя «не была папярэджаная» — адпаведныя заявы з патрабаваннем забяспечыць беларусам бяспеку падчас правядзення ЧС па хакеі і папярэджанне пра дзеянні расійскіх фанатаў афіцыйна накіравалі ў Мінгарвыканкам і міліцыю Партыя БНФ і кампанія «Гавары праўду!».

Незадаволенымі застануцца не толькі расійскія фанаты, якім «не далі марш», але і розныя абаронцы жывёлаў. Справа ў тым, што ў першыя тры дні чэмпіянату, 9–11 мая, службы адлову безнаглядных жывёл будуць працаваць ва ўзмоцненым рэжыме. Па словах намесніцы дырэктара ГП «Фаўна горада» Тамары Царыкоўскай, гаспадарам хатніх жывёл у дні правядзення ЧС варта быць асабліва ўважлівымі і не адпускаць далёка ад сябе сваіх гадаванцаў. «Таму што яны будуць адлоўленыя і дастаўлены ў наш пункт (часовага ўтрымання жывёл «Фауны горада»). Гаспадары змогуць забраць сваіх жывёл, але за іх захаванне ім прыйдзецца заплаціць. Адзін дзень утрымання ў пункце адлову каштуе 31.700 рублёў», — патлумачыла Царыкоўская.

Вельмі часта службы адлову сустракаюць у горадзе маленькіх сабак, якія ўцяклі ад сваіх гаспадароў. «Мы рэкамендуем гаспадарам абавязкова на нашыйніках сваіх жывёл пісаць нумар тэлефона», — падкрэсліла Царыкоўская, дадаўшы, што так будзе прасцей вылічыць уладальнікаў жывёлінак і вярнуць «прапажу».

Так што горад будуць шчыльна «зачышчаць» і ад бадзяжных жывёлінак. Што, канешне, не дадасць станоўчых эмоцыяў барацьбітам за правы жывёлаў.

Няпросты перыяд у нас наступіў і ў міжнародных адносінах. На фоне канфлікту Расіі і Украіны Аляксандр Лукашэнка задумаўся, што ж будзе з СНД. Яшчэ раней з-за расійскай агрэсіі з арганізацыі выйшла Грузія і вяртацца ў яе не спяшаецца. Зараз па той жа прычыне ад старшынства ў гэтым годзе адмовілася Украіна, і не факт, што «яна застанецца з намі». «Мы справімся з гэтымі праблемамі. Разбураць, хай нават не зусім такую Садружнасць, якую б мы хацелі і да якой мы імкнёмся, тым не менш нельга», — заявіў Лукашэнка на сустрэчы з кіраўніком Выканкама СНД Сяргеем Лебедзевым.

Лукашэнка спадзяецца, што «СНД было, ёсць і будзе». Але ўсё ж пытанні, якім яно будзе і навошта яно яшчэ трэба, усё ж стаяць на павестцы дня. Асабліва, калі напрыканцы мая мы маем намер стварыць Еўразійскі эканамічны саюз.

Што ж датычна Украіны, то Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь настойліва рэкамендуе беларускім грамадзянам устрымацца без крайняй неабходнасці ад паездак у Украіну, гаворыцца ў паведамленні МЗС РБ. «Грамадзянам Рэспублікі Беларусь, якія знаходзяцца ў цяперашні час ва Украіне, настойліва рэкамендуецца пазбягаць удзелу ў палітычных акцыях і масавых мерапрыемствах да поўнай нармалізацыі абстаноўкі», — раіць беларускае знешнепалітычнае ведамства.

Так што беларусам напярэдадні сезона адпачынкаў трэба думаць, куды паехаць. Па відавочных прычынах, адпадаюць Крым, дзе паўвайсковае становішча, няма вады і ежы, і Затока — Адэса з іхнімі нестабільнасцямі і магчымымі гвалтоўнымі дзеяннямі. Але пры гэтым і наш родны МЗС не падвёў. З 1 чэрвеня гэтага года беларускія грамадзяне могуць ездзіць без віз у Турцыю. Менавіта з гэтага дня набывае моц пагадненне паміж урадамі Беларусі і Турцыі аб узаемнай адмене віз.

Згодна з дакументам, беларускія грамадзяне змогуць знаходзіцца на тэрыторыі Турцыі без візы на працягу 30 дзён за адну паездку. На працягу аднаго года можна будзе заязджаць у Турцыю без візы шматкроць, але агульны тэрмін такога знаходжання не павінен перавышаць 90 дзён.

І гэта прыемная навіна не толькі для адпускнікоў. Зараз беларускія «чаўнакі» будуць «ганяць у Турцыю» самастойна, чым падарвуць эканамічную стабільнасць усялякіх маскоўскіх «чэркізонаў». Будзем спадзявацца, што турэцкі тавар зараз будзе трапляць у Беларусь наўпрост і патаннее, бо не будзе той «накруткі», якую здымаюць з беларускіх прадпрымальнікаў маскоўскія ці ўкраінскія «пасярэднікі». Галоўнае, каб яшчэ «Белавія» ўвяла дадатковыя камерцыйныя рэйсы ў Стамбул — і ўвогуле будзе добра.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Алена Купчына



**Намесніца міністра замежных спраў Алена Купчына паведаміла, што ў хуткім часе прадстаўнікі Беларусі і Еўракамісіі абмяркуюць у Мінску спрашчэнне візавага рэжыму.**

Купчына ўзначальвала беларускую дэлегацыю на сустрэчы міністраў замежных спраў краін — членаў Вышаградскай групы і краін — удзельніц «Усходняга партнёрства»,якая прайшла 28–29 красавіка ў Будапешце. Па словах Алены Купчыной, «усе ўдзельнікі сустрэчы віталі гатоўнасць беларускіх уладаў працягнуць перамовы па заключэнні пагаднення паміж Беларуссю і Еўрасаюзам аб лібералізацыі візавага рэжыму і рэадмісіі». «Мы чакаем прыезду ў Мінск прадстаўнікоў Еўракамісіі (спецыяльнага генеральнага дырэктарата, які займаецца гэтымі пытаннямі). Думаю, гэта адбудзецца ў траўні», — сказала намесніца міністра.

Таксама яна адзначыла, што прынцыповым пытаннем, якое агучыў беларускі бок на сустрэчы ў Будапешце, быў «раўнапраўны недыскрымінацыйны ўдзел краін «Усходняга партнёрства» ва ўсіх без выключэння вымярэннях гэтай праграмы». «Мы настойваем на тым, каб Беларусь магла паўнавартасна ўдзельнічаць у двухбаковым трэку гэтай праграмы», — сказала Купчына.



## Вольга Карач

**Лідар грамадзянскай ініцыятывы «Наш дом» Вольга Карач па-свойму паставілася да Чэмпіянату свету па хакеі. Яна зрабіла правакацыйную фотасесію з нагоды палітычных рэпрэсій у Беларусі.**

Вольга Карач зрабіла серыю плакатаў на некалькіх мовах з напамінам пра палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі і заклікам да сумленнай гульні ў краіне без палітвязняў. Знялася Карач у хакейнай варатарскай форме, дзе забрала шалома выглядае як краты. Пасля здымкаў яна прызналася, што хакейная форма ўнутры вельмі нязручная.

Таксама Вольга знялася разам з сынам і нагадала, што ў Беларусі органы апекі могуць з 2006 года забраць любое дзіця з сям'і нават без рашэння суда. Справа ў тым, што нядаўна ў Віцебску органы апекі праяўлялі пільную ўвагу да нованароджанага дзіцяці Вольгі.

Раней Вольга Карач заяўляла, што мае намер балатавацца на пасаду прэзідэнта Беларусі на выбарах 2015 года, а таксама мела намер дамагацца вылучэння сваёй кандыдатуры на будучых прэзідэнцкіх выбарах у якасці адзінага кандыдата ад апазіцыі. Аднак апошнім часам яна прызнала, што ў кампаніі «Наш дом» няма стратэгіі на прэзідэнцкую кампанію, а сама яна не ўпэўненая, што здолее рэалізаваць свае прэзідэнцкія амбіцыі «ці то ў 2015 годзе, ці некалі яшчэ».

## Ганна Шарэвіч



**Міжнародны гросмайстар, ураджэнка Брэста Ганна Шарэвіч змяніла зборную. З 1 мая яна будзе выступаць за шахматную федэрацыю ЗША.**

Ганна Шарэвіч нарадзілася 18 снежня 1985 года ў Брэсце. У дзяцінстве займалася акрабатыкай, паралельна гуляла ў шахматы, з 5 гадоў удзельнічала ў турнірах (трэніраваў бацька, Вадзім Шарэвіч). Ганна скончыла факультэт фізвыхавання Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта і магістратуру. Прадпрымала спробу стварыць шахматную школу, але дзяўчыну не падтрымалі ў Брэсце.

Ганна Шарэвіч некалькі разоў станавілася чэмпіёнкай Беларусі — у 2002, 2005 і 2007 гадах. Неаднаразова выступала ў складзе нацыянальнай зборнай на міжнародных першынствах. У прыватнасці, абараняла колеры беларускай зборнай у 2002 і ў 2005 гадах. Таксама Ганна працавала ў якасці каментатара на Кубку Свету 2011 года, які выйграў Пётр Свідлер.

Шмат хто называе яе «шахматнай каралевай прыгажосці». У інтэрнэце можна знайсці мноства фатаграфій Ганны Шарэвіч, на якіх яна пазіруе ў даволі адкрытым выглядзе. Апошнія некалькі гадоў жыла ў ЗША.

а | Азбука паліталогіі

# Незаўважаная лекцыя



Сяргей НІКАЛЮК




**У несвабодным, а значыць, амаральным грамадстве бессэнсоўна разлічваць і на праявы пачуцця салідарнасці паміж людзьмі.**

25 красавіка ў рамках праекта «Еўрапейскае кафэ: адкрытая прастора Еўропы» ў галерэі TUT.BY адбылася адкрытая лекцыя дырэктара «Лявада-Цэнтра» Льва Гудкова. Лекцыя не стала падзеяй у жыцці беларускіх інтэлектуалаў. Гэта маё асабістае меркаванне. І змест лекцыі тут не пры чым. Памяшканне, у якім супрацоўнікі кампаніі ў абедзенны перапынак п'юць каву і абмяркоўваюць свае бытавыя праблемы, змясціла ўсіх ахвочых. Камусьці не хапіла крэслаў, але не больш за тое.

Не зацікавіла праца і партыйных актывістаў і незалежных журналістаў. Першыя напярэдадні чарговых прэзідэнцкіх выбараў занятыя распрацоўкай эфектыўнага механізму выяўленне ва ўласных шэрагах «адзінага кандыдата», другія гэты перманентны працэс апісваюць і аналізуюць.

Між тым, банальную ісціну «няма нічога больш практычнага, чым добрая тэорыя» ніхто не адмяняў. Сам Леў Гудкоў з гэтай нагоды любіць паўтараць: «Разуменне — гэта таксама дзеянне, прычым больш істотнае, чым удзел у тых ці іншых прамых грамадзянскіх акцыях».

Гэта «Азбука паліталогіі» прысвечана чарговай спробе аўтара зразумець беларускае грамадства.

### «Натура, якая сыходзіць»

У 1989 годзе сацыёлаг Юрый Лявада ініцыяваў даследчы праект «савецкі чалавек». Ён лічыў, што ва ўмовах перабудовы гэты сацыяльны тып асуджаны стаць «натурай, якая сыходзіць», і са зменай пакалення, за кошт уваходжання ў жыццё моладзі, што не ведала таталітарызму, грамадства кардынальна зменіцца.

Аднак надзеі на лозунг «моладзь — наша будучыня» не спраўдзіліся. Савецкая ўлада засталася ў мінулым, але ўзнаўленне «чалавека савецкага» працягнулася. Феномен гэты стаў магчымы за кошт захавання механізму стэрылізацыі маралі як умовы падтрымання насельніцтва ў стане апатыі і абыякавасці.

Аналагічныя надзеі ў пачатку 90-х гадоў мелі і незалежныя беларускія сацыёлагі. Ужо першыя апытанні паказалі, што аўтарытарных палітыкаў падтрымліваюць галоўным чынам пажылыя і малаадукаваныя жыхары вёскі і малых гарадоў («натура, якая сыходзіць»). Такім чынам, электаральны поспех цяперашняга кіраўніка дзяржавы — з'ява часовая, таму што будучыня працуе на дэмакратыю.

Але што атрымалася на практыцы? У 1994 годзе за пул прасавецкіх кандыдатаў у прэзідэнты (Дубко, Кебіч, Лукашэнка і Новікаў) прагаласавалі 37% беларусаў ва ўзросце ад 18 да 29 гадоў. На наступных прэзідэнцкіх выбарах такі пул ужо не складаўся. «Адзінаму палітыку» (АП) супрацьстаялі толькі кандыдаты ад дэмакратычнай апазіцыі (беларускага ліберальнага дэмакрата Гайдукевіча я не ўлічваю). У 2001 годзе АП падтрымалі 30% маладых выбаршчыкаў, у 2006 годзе — 37%, у 2010 годзе — 31%.

Як нескладана заўважыць, ваганні ўзроўню электаральнай падтрымкі існуюць, але яны выкліканыя магчымасцямі АП раздаваць перадвыбарчы «хлеб» (іх пік прыйшоўся на 2006 год). Да змены пакаленняў ваганні ніякага дачынення не маюць.

### Дзе больш дзяржавы, там і больш свабоды

Аднак вернемся да лекцыі. Яе цэнтральнае паняцце — мараль. Сёння словы «мараль», «маральнасць» і вытворныя ад іх актыўна ўжываюць прадстаўнікі ўлады: чыноўнікі, дэпутаты і, зразумела, сам АП. Папулярным ён і ў іерархаў праваслаўнай царквы. Тут «мараль» (апеляцыя да «маральных каштоўнасцяў») азначае толькі патрабаванне ўзмацнення кантролю і ўвядзення дадатковых абмежаванняў.

Між тым, мараль — своеасаблівы прадукт Новага часу, і як сістэма рэгулявання паводзін людзей яна супрацьстаіць традыцыям і звычкам. «Мараль, — падкрэслівае Леў Гудкоў — не можа паўстаць у «простым» недыферэнцаваным грамадстве. Яна ўзнікае толькі там, дзе фармуюцца шматбаковыя сувязі асобных людзей, адносна незалежных (аўтаномных) сацыяльных утварэнняў і груп».

Носьбіт маралі — свабодны, не залежны ад дзяржавы чалавек. Свабоду пры гэтым варта разумець не як вольніцу (што хачу, тое і раблю), а як асабістую адказнасць. Чалавек жа несвабодны не ў стане адказваць ні за сябе, ні за тое, што адбываецца. Таму з такой прастатой ён дэлегуе адказнасць за прыняцце рашэнняў уладзе. А ўлада, у сваю чаргу, манапалізуе права выступаць ад яго імя і ад імя інтарэсаў народа.

Падмацую сказанае цытатай польскага сацыёлага Эдмунда Внук-Лепінскага: «У Веймарскай рэспубліцы самыя радыкальныя партыі, г.зн. нацысцкая і камуністычная, адрозніваліся, як паказваюць даследаванні, самай вялікай цякучасцю электарату. Значыць, людзям, якія аддавалі свае галасы камуністам ці нацыстам, было ўсё роўна, за каго галасаваць. Яны галасавалі за радыкальную палітычную альтэрнатыву свабодзе і дэмакратыі, якая здыме з іх цяжар адказнасці за ўласнае жыццё».

Свабода для тыповага прадстаўніка беларускай большасці — гэта, перш за ўсё, адчуванне стабільнасці, гэта знакамітая савецкая «ўпэўненасць у заўтрашнім дні». Таму свабоды ў нас больш там, дзе дзяржава апякуе насельніцтва, у тым ліку ў эканамічным плане — кантралюе эканоміку, кошты і да т.п. Як тут не прыгадаць АП: *«Свобода — это не беспредел, это спокойная и тихая жизнь и порядок в обществе»*.

Несвабодны чалавек не мае крыніцы парадку ўнутры сябе. Адсюль паўстае патрэба ў знешніх рэгулятарах. Адсутнасць жа такіх ён адчувае як хаос. Таму сакавіцкае апытанне НІСЭПД зафіксавала, што ва ўкраінскім канфлікце пазіцыю пратэстоўцаў на Еўрамайдане ўхваляе толькі 21% беларусаў (ад 18 да 29 гадоў — 39%, 60 гадоў і старэй — 12%).

І, каб завяршыць тэму «свабоды», я звярнуся па дапамогу да расійскага паліталага Уладзіміра Пастухова: «Ліберальная свабода — гэта свабода язды па рэйках: вельмі хутка, але толькі ў строга зададзеным кірунку. Руская «свабода» — гэта свабода хадзіць пешкі дзе заўгодна: усе наступаюць адзін аднаму на ногі, але кожны думае, што ён галоўны. Смешна, але рускім вельмі часта няўтульна на Захадзе — яны ўвесь час адчуваюць недахоп «свабоды».

### Улада адкрытая для дыялогу і рэпрэсій

У несвабодным, адпаведна, амаральным грамадстве не могуць узнікнуць уяўленні аб агульных інтарэсах і грамадскай карысці. Бессэнсоўна разлічваць і на праявы пачуцця салідарнасці паміж людзьмі, для якіх свабода — *«это спокойная и тихая жизнь»*.

За палітычным канфліктам ва Украіне сачылі штодня 35% беларусаў, час ад часу — 54%. Але пры такім высокім узроўні ўвагі самым папулярным адказам на пытанне: «На чыім баку былі вашы сімпатыі ў гэтым канфлікце?» апынуўся варыянт «ні на чым» — 56%.

Чалавека аўтаномнага (незалежнага ў сваіх учынках і меркаваннях) не варта блытаць з чалавекам атамізаваным. Апошні, нібы слімак, сядзіць у сваёй ракавіне, што не выключае яго глядацкай цікавасці да знешніх падзеяў, за якімі ён назірае па тэлевізары. Тэлевізар і фармуе яго ўяўленне аб тым, што адбываецца. У іншых крыніцах інтэрпрэтацыі ён не мае патрэбы.

Але што стрымлівае ад распаду грамадства атамізаваных індывідаў, няздольных да выпрацоўкі агульных інтарэсаў і пазбаўленых пачуцця салідарнасці? Каб адказаць на гэта пытанне, звернемся да Паслання–2014.

Цікавы ўжо яго загаловак: *«Сильная экономика и честная власть — фундамент независимости страны и процветания нации»*. Гэта значыць, нацыю АП разглядае выключна ў якасці аб'екта, росквіт якога залежыць не ад намаганняў грамадзян, а ад знешніх фактараў, галоўны з якіх — *«честная власть»*.

Такую ўладу ў наш час варта разглядаць у якасці выключэння, а не правіла. Тут варта прыгадаць Украіну. Але беларусам пашанцавала. Адна з папярэдніх «Азбук паліталогіі» («Ода хаосу», «НЧ» №14 ад 11 красавіка) была прысвечана гэтаму шанцаванню, таму не буду паўтарацца.

У пасланні–2014 маецца раздзел, прысвечаны тым, *«кто по разным причинам критически относится к власти»*. Прысутнічаюць і выдатныя словы аб адкрытасці *«для любого диалога, если его целью является благо Беларуси, а не частные, тем более иностранные интересы»*. Аднак канкрэтных прапаноў па наладжванні дыялогу дакумент не ўтрымлівае, чаго не скажаш пра папярэджанне *«жестко уничтожать в зародыше»* любую прапаганду гвалту.

Між іншым, сам АП эфектыўнага кіравання без гвалту не ўяўляе, пра што ўвесь час нагадвае свайму асяродку. Абмяжуюся адной цытатай: *«Управляемая ликвидация — это значит руководителей и специалистов, доведших до банкротства, если не в тюрьму, то с метлой на улицу»*.

Гвалт і з'яўляецца адным з найважнейшых інструментаў, які стрымлівае грамадства атамізаваных індывідаў ад распаду.

### Што рабіць?

Па колькасці зняволеных на 100 тысяч жыхароў Беларусь у Еўропе апярэджвае толькі Расія. Да таго ж рэспубліка-партызанка — адзіная краіна ў Еўропе, дзе выносяцца і прыводзяцца ў выкананне смяротныя прысуды.

«Абвінаваўчы ўхіл» беларускіх судоў абапіраецца на ўпэўненасць «большасці», што страх пакарання з'яўляецца асноўным стымулам выканання законаў — 52%, на другое месца ў якасці такога стымулу беларусы ставяць звычку — 20%, і толькі на трэцяе — веру ў справядлівасць закона — 16% (НІСЭПД, ліпень 2009 года).

На фоне масавых уяўленняў пра страх як пра крыніцу законапаслухмянасці, вельмі гарманічна глядзіцца вера ў адмоўныя наступствы ад змякчэння пакаранняў нават за нязначныя злачынствы — 53%. А вось згодныя з тым, што змякчэнне пакаранняў прывядзе да станоўчых наступстваў, толькі 29%.

Мараль, якая выступае ў якасці абмежавальніка гвалту, характарызуе ўзровень цывілізаванасці грамадства. «Супольнасць, дзе сацыяльны парадак трымаецца на іерархіі гвалту, справядліва называецца варварскай», — сцвярджае Леў Гудкоў.

Варварскія сістэмы адносін абмяжоўваюць патэнцыял развіцця краіны. Таму не варта здзіўляцца стану масавай апатыі, уласцівай беларускаму грамадству. Яна з'яўляецца вытворнай ад сістэматычнага здушэння любых спробаў салідарнасці, супрацоўніцтва і праявы адказнасці за тое, што адбываецца ў грамадстве.

Што ў такіх невясёлых умовах неабходна рабіць апазіцыі? Перш за ўсё, скарыстацца парадамі расійскага сацыёлага і заняцца ўсведамленнем і разуменнем рэальнасці, у якой выпала жыць.

# Ці дапамог Нацбанк насельніцтву?

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Другі тыдзень дзейнічае пастанова Нацыянальнага банка №253 «Аб некаторых пытаннях прадастаўлення крэдытаў фізічным асобам і фінансавання пад уступку грашовага патрабавання». За груваcткай назвай схаваныя змены ў парадак выдачы банкаўскіх крэдытаў грамадзянам. Зараз такі крэдыт атрымаць стане складаней.**



Новаўвядзенне тычыцца таго, што зараз ацэнка банкам крэдытаздольнасці фізічнай асобы будзе ажыццяўляцца пры наяўнасці дакумента, які пацвярджае атрыманне даходу. То бок, для атрымання нават дробнага крэдыту кліент абавязаны прынесці ў банк даведку аб заработнай плаце або дакументы, якія пацвярджаюць памер пенсіі, сацыяльнай адраснай дапамогі, штомесячнае грашовае забеспячэнне і інш. Без даведкі аб даходах крэдыт атрымаць будзе немагчыма.

Фактычна, такім чынам Нацбанк абмежаваў выдачу спажывецкіх экспрэс-крэдытаў, якія можна было аформіць на банкаўскай кропцы ў буйных крамах.

Намеснік старшыні праўлення Нацбанка Сяргей Дубкоў растлумачыў: «Мы мяркуем, што спантанныя пакупкі, якія ажыццяўляюцца насельніцтвам у крамах, прычым па палегчанай сістэме крэдытавання, правакуюць прыняцце неадэкватных рашэнняў. Потым, калі ўзнікаюць рэальныя праблемы, насельніцтва, досыць актыўна выкарыстоўваючы тыя ці іншыя каналы, сваю заклапочанасць даносіць да дзяржорганаў. І прапанавалі пэўную рэгламентацыю, каб купля тых ці іншых тавараў адбывалася абдумана».

Нярэдка ў краме ў кліента з'яўляецца жаданне атрымаць тавар, што б там ні было. Калі сваіх грошай не хапае, ён можа на працягу 20–30 хвілін атрымаць крэдыт проста на месцы. Аднак такія крэдыты вельмі дарагія, і часам доўг можа апынуцца непад'ёмным. Паход у бухгалтэрыю за даведкай астудзіць скараспелыя фінансавыя жаданні чалавека. Вядома, хуткія крэдыты не знікнуць, але паток жадаючых павінен паменшыцца.

Банкі — толькі «за» такое новаўвядзенне: беларусы ўсё часцей бяруць пазыкі, і часцей іх не вяртаюць. Аб'ём выдадзеных фізічным асобам крэдытаў у нацыянальнай валюце на 1 красавіка 2014 года склаў 54.669 трыльёна рублёў, і ўзрос за студзень-сакавік на 2,9%. Пры гэтым праблемная запазычанасць за студзень-сакавік вырасла на 13,1% — да 285,2 мільярда рублёў, у тым ліку на 4,4% у сакавіку і на 3,3% у лютым. На думку спецыялістаў, дадатковыя рухі, кшталту атрымання даведкі аб даходах, прымусяць грамадзян больш абдумана падыходзіць да рашэння ўзяць крэдыт.

**У Беларусі распладзілася безліч рознага кшталту фінансавых арганізацый, якія прапануюць так званыя «займы да заробку». Эксперт зазначае, што пакуль барацьба Нацбанка з «фінкамі» не мае бачнага выніку**

Намеснік старшыні праўлення «Ідэя-Банк» Таццяна Самойленка ў каментары БелТА адзначыла, што ў выніку новаўвядзення, безумоўна, нейкія кліенты сыдуць. Але на самай справе «банку патрэбныя кліенты, якія ўпэўненыя ў сваіх даходах, умеюць правільна планаваць сваю фінансавую будучыню, сваю фінансавую нагрузку». «Спантанныя» ж кліенты банкам і не вельмі патрэбныя.

Але пра што Нацбанк, з усёй іх сістэмай маніторынгу не падумаў — гэта пра тое, што «святое месца пустым не бывае». Канешне, мажліва, што банкі ад гэтага новаўвядзення выйграюць. Але ці выйграе грамадзянін?

Справа ў тым, што ў Беларусі распладзілася безліч рознага кшталту фінансавых арганізацый, якія пад рознымі соўсамі прапануюць так званыя «займы да заробку». Збольшага гэтыя арганізацыі з незразумелай гісторыяй на фінансавым рынку, цьмянай формай уласнасці да памерам капіталу, і цікавымі з першага погляду прапановамі.

Просты пошук у інтэрнэце выдае дзясяткі беларускіх «мікрафінак», якія гатовыя даць «грошы да заробку». Зазвычай, сума складае да трох мільёнаў рублёў, а стандартны кошт такога займу — 2% на дзень. Грошы можна атрымаць на тэрмін ад 5 да 30 дзён. Для гэта не патрэбныя нейкія заручнікі, не патрэбныя даведкі аб даходах, трэба толькі пашпарт. Заяўку можна аформіць праз інтэрнэт, грошы прывязе кур'ер — альбо дадому, альбо куды скажаш.

А насамрэч такія «лёгкія грошы» — рабаўніцтва. Калі ты бярэш мільён на тыдзень пад 2% на дзень, ты аддаеш 1 мільён 140 тысяч рублёў. За месяц — 1 мільён 560 тысяч, то бок 56%. Калі палічыць гадавую стаўку, то яна складае 730% на год! То бок, узяў адзін мільён, а за год вяртаеш 730 мільёнаў!

У той час, як беларускія банкі прапануюць экспрэс-крэдыты на ўмовах ад 42 да 75% гадавых. Пагадзіцеся, ёсць розніца нават паміж 70% і 700%.

Ці не атрымаецца так, што месца банкаў у крамах зоймуць драпежныя «фінкі»?

На думку фінансавага аналітыка экспертнай супольнасці «Ліберальны клуб» Антона Болтачкі, такая рызыка — хоць невялікая — ёсць. «Не існуе статыстыкі, які аб'ём фінансавага рынку займаюць такія мікрафінасавыя арганізацыі. Але можна казаць пра тое, што гэты рынак сам па сабе не вельмі вялікі. Усё ж беларусы лічаць грошы і аддаюць перавагу банкам, якія даюць ім сродкі пад меншыя працэнты. Да таго ж, Нацбанк не раз заяўляў, што, нароўні з пастановай пра выдачу экспрэс-крэдытаў толькі пры наяўнасці даведкі аб даходах, ён будзе змагацца і з мікрафінансавымі арганізацыямі. Пакуль гэтае змаганне рэалізуецца на ўзроўні пастановаў Нацбанка», — адзначыў Болтачка.

Сам эксперт зазначае, што пакуль барацьба Нацбанка з «фінкамі» не мае бачнага выніку. «Хутчэй, таму, што Нацбанк лічыць умовай існавання «фінак» высокія банкаўскія стаўкі па кароткатэрміновых крэдытах. Але, як мы бачым, насамрэч гэтыя стаўкі не такія ўжо і высокія. Прычына існавання мікрафінансавых арганізацый палягае ў стане беларускага фінансавага рынку ў цэлым, а Нацбанк "лякуе" адзін з сімптомаў хваробы. Трэба, урэшце, зразумець, што такія мікрафінансавыя арганізацыі не знікнуць да таго часу, пакуль ім будзе выгадна існаваць на рынку. Як толькі гэты бізнэс страціць прывабнасць, ён знікне сам па сабе», — лічыць Болтачка.

Такім чынам, рызыка таго, што з уводам новых правілаў крэдытавання пацерпіць насельніцтва, застаецца. Але тут усё ўжо залежыць ад самога грамадзяніна: браць яму «заём» пад рабаўнічыя працэнты, альбо суадносіць свае жаданні са сваімі магчымасцямі.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

## Лысая гара беларускай эканомікі

**Адбудуцца прэзідэнцкія выбары ў вызначаны тэрмін ці раней — можна гадаць. Ці будзе на іх адзіны кандыдат ад апазіцыі — можна спрачацца. Але 500–600 долараў сярэднемесячнай зарплаты — гэта абсалютны факт.**



Статыстыка заробкаў, хоць налічаных, хоць выплачаных і выкарыстаных у хатніх бюджэтах, дае даволі дакладны рэальны малюнак.

Сярод тых, хто, як казалі раней, жыве на адну зарплату, няма ні багацеяў, ні відавочных беднякоў. Зыходзячы з дадзеных Белстата, урад спецыяльна клапоціцца аб роўнасці. Прыкладам, сярэдні заробак па краіне склаў 5,73 мільёна рублёў, у тым ліку 7,83 мільёна рублёў у Мінску, і прыблізна 5 мільёнаў рублёў у абласцях. Зразумела, што ў Мінскай вобласці атрымліваюць больш, чым у іншых абласцях. Гэтак жа, як у Салігорску і Жодзіна. На 400–500 тысяч меней, чым насельнікі сталічнай вобласці, атрымліваюць жыхары Брэсцкай і Гарадзенскай абласцей.

Горш працуюць? Зламыснікі могуць сказаць, што і так. Але галоўнае: заходнікі маюць наладжаныя бізнэсы ў бліжнім памежжы, даходная частка якіх не ўся трапляе ў статыстычныя справаздачы. Ёсць арыфметыка, ёсць алгебра, а ёсць статыстычны ўлік. Адпаведна гэтаму ўліку, сярэдні заробак у сталіцы ў 1,35 разу перавышае сярэдні заробак у абласцях. На першы погляд, гэта зразумела — у Мінску больш грошай, больш арганізацый і бізнэсаў, таму ў сярэднім мінчане працуюць болей, болей і атрымліваюць. Але ж і больш выдаткоўваюць, за адны і тыя ж паслугі і тавары яны плацяць больш, чым астатнія.

Але, паўтару, улады пільна адсочваюць баланс, каб не парушылася раўнавага. Палітычная, скажу вам, справа. Прыкладам, напярэдадні апошніх выбараў мінскі і абласныя вертыкальныя начальнікі рабілі тое ж самае. За 9 месяцаў да 500 долараў давялі сярэдні заробак у Мінску, а пасля адзін за адным выцягвалі планку да 500 долараў у абласцях. Савецкі прынцып ураўнілаўкі непахісны.

Было відавочна, што 500-доларавы сярэдні заробак меў пэўнае дачыненне да эканомікі, да вытворчасці, да рэалізацыі, да рэнтабельнасці, прыбытковасці ці стратнасці — усіх гэтых эканамічных варункаў, без якіх увогуле не бывае грошай.



Але менавіта гэты, канкрэтны сярэдні заробак у 500 долараў меў да эканомікі толькі тое дачыненне, што сваім існаваннем паказваў — эканоміка не дазваляе сярэднім работнікам зарабляць сярэдні заробак у 500 долараў. Як высветлілася пасля трохкратнай дэвальвацыі рубля (з 3 000 да 9 000 за долар), рэальны заробак да канца года зменшыўся да 170–200 долараў.

На такім узроўні аднавіліся рынкавыя стасункі ў эканоміцы. Як падлічылі спецыялісты, Беларусь па аплаце працы скацілася да паказчыкаў Кіргізіі, Малдовы, Арменіі. Вось які жах!

На самай справе, трэба не палохацца, а цвяроза зразумець, што, калі прымаць да ўвагі толькі рынкавыя варункі, беларуская эканоміка валодае не большымі патэнцыямі, не большай дынамікай, чым краіны, з якімі праводзіліся параўнанні. 200–300 долараў працаўнік можа зарабіць на сваім рабочым месцы, 100–150 долараў у яго кішэню кладуць так званыя «губернатары», яшчэ 100–200 дае вярхоўны правіцель, які бярэ грошы ў пазыкі.

Місія МВФ, ад якой беларускаму правіцелю часам трапляе некалькі мільярдаў крэдыту пад абяцанне сістэмных рэформаў, таксама заўважыла, што ў бягучым годзе нельга падвышаць заробкі. Па той відавочнай прычыне, што ні прамысловасць, ні сельская гаспадарка да падвышэння прадукцыйнасці працы не гатовыя. І ты больш не гатовы да падвышэння самой вытворчасці.

Дзіўная рэч, што робіць час з людзьмі, як ён змяняе іх норавы і характары. Раней Лукашэнка спецыялістаў называў выключна «жулікамі», а зараз прыслухоўваецца да кожнага іх слова. Як у колішнім савецкім анекдоце — як сказаў райкам, так і будзе. Вось выказаўся МВФ, што беларус не мае магчымасці ў рэальнай беларускай эканамічнай мадэлі зарабіць болей, з тым пагадзіўся і Лукашэнка. На сваёй мове: «Хай мы будзем 500–600 долараў зарабляць, але мы стабільна будзем працаваць у цэхах».

Хоць на вадзе і пад вадой, на зямлі і пад зямлёй, хоць у паветры ці ў космасе. Бо беларуская эканоміка сваёй вышыні ўжо дасягнула. Вышыні знакамітай Лысай гары, адпаведнай маштабам беларускай эканомікі, разуменню начальства спажывецкіх стандартаў для сябе любімых і для народца.



**1991 год. Мінск, мітынг на пл. Незалежнасці.** Фота Сяргея Брушко

# Нароўні з Канстытуцыяй

Міхаіл ПАСТУХОЎ,
Сяргей ПУЛЬША

**Юрыдычна нормы, якія дазваляюць беларусам адстойваць свае правы ў міжнародных інстытуцыях, закладзеныя і ў беларускім заканадаўстве. Дзейнічаюць яны ці не, і чаму не дзейнічаюць — гэта іншыя пытанні. Але для разумення таго, як іх можна скарыстаць, трэба мець уяўленне пра нацыянальныя механізмы абароны правоў чалавека.**

### Нароўні з Канстытуцыяй

Усе мы звыклі да таго, што галоўным і Асноўным законам Беларусі ёсць Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. Алеперадумовай гэтай Канстытуцыі быў яшчэ адзін грунтоўны акт. Гэта Дэкларацыя «Аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР», прынятая Вярхоўным Саветам 12-га склікання 27 ліпеня 1990 года.

25 жніўня 1991 года Дэкларацыі быў нададзены статус канстытуцыйнага закона. Дзень прыняцця Дэкларацыі стаў дзяржаўным святам — Днём незалежнасці. Пасля змены назвы беларускай дзяржавы (з 19 верасня 1991 года) Дэкларацыя стала называцца «Аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь».

Зараз «афіцыёзны» Дзень незалежнасці ў нас іншы — па выніках лістападаўскага рэферэндуму 1996 года на аснове прэзідэнцкага дэкрэта стаў адзначацца Дзень рэспублікі 3 ліпеня. Але дэкрэт мае меншую моц, чым закон, тым больш канстытуцыйны. І «законным» Днём незалежнасці ўсё ж такі з'яўляецца 27 ліпеня. Бо Дэкларацыя аб суверэнітэце — закон, які ніхто не адмяняў і які павінен дзейнічаць.

### Прэамбула, у якой галоўнае

Прэамбула да Дэкларацыі канстатуе, што гэты закон прыняты ад імя народа і пры ўсведамленні дэпутатамі парламента адказнасці за лёс беларускай нацыі. У ёй падкрэсліваецца павага годнасці і правоў людзей усіх нацыянальнасцяў, якія пражываюць у Беларусі, а таксама да суверэнных правоў усіх народаў Саюза ССР і свету. Істотна і тое, што ў прэамбуле адзначаецца пераемнасць палажэнняў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і іншых агульнапрызнаных міжнародных актаў.

У прэамбуле абвешчаны «поўны» дзяржаўны суверэнітэт Беларусі як «вяршэнства, самастойнасць і паўната ўлады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, правамоцнасць яе законаў, незалежнасць рэспублікі ў знешніх стасунках».

Зыходзячы з палажэнняў прэамбулы, можна зрабіць як мінімум тры высновы. Па-першае, суверэнітэт абвяшчаецца ад імя ўсяго народа, і, значыць, абавязвае ўсе дзяржаўныя органы і службовых асоб прызнаваць уладу і волю беларускага народа. Па-другое, суверэнітэт грунтуецца на прызнанні правоў і свабод чалавека, што накладае на дзяржаву абавязак іх захавання і абароны. Па-трэцяе, «паўната» суверэнітэту прадугледжвае незалежнасць і самастойнасць дзяржаўнай улады пры ажыццяўленні ўнутранай і знешняй палітыкі.

Дэкларацыя стварыла прававы фундамент для паўнавартаснай дзейнасці беларускай дзяржавы, а таксама для свабоднага развіцця беларускага народа. Выходзячы з тэксту Дэкларацыі, народ — галоўны суб'ект улады, а дзяржава і яе органы ствараюцца толькі і выключна для рэалізацыі волі грамадзян.

### Нашто нам суверэнітэт?

У артыкуле 3 Дэкларацыі сказана, што дзяржаўны суверэнітэт абвяшчаецца ў імя вышэйшай мэты — «свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна рэспублікі на аснове забеспячэння правоў асобы ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і яе міжнароднымі абавязальніцтвамі». Гэта значыць, што галоўнае тут — дабрабыт, годнае і шчаслівае жыццё грамадзян, а ўлада павінна зрабіць для гэтага ўсё магчымае.

У артыкуле дадаткова падкрэсліваецца: «…на аснове забеспячэння правоў асобы ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і яе міжнароднымі абавязальніцтвамі». То бок, дзяржава абавязана забяспечыць усе правы і свабоды чалавека, ва ўсялякім выпадку, тыя, якія замацаваныя ў Канстытуцыі і ў ратыфікаваных міжнародных актах.

Такім чынам, правы грамадзянаў у нас прапісаныя не толькі ў Асноўным законе — Канстытуцыі, але яшчэ і ў Дэкларацыі аб суверэнітэце. Досыць забяспечыць захаванне асноўных правоў і свабод чалавека — і мэта суверэнітэту будзе дасягнутая. Галоўнае, каб дзяржава была адказнай за выкананне гэтых правоў грамадзянаў — носьбітаў і суверэнітэту, і самой улады.

### Якой павінна быць дзяржава?

На гэты конт у Дэкларацыі маецца даволі багата нормаў. У адпаведнасці з артыкулам 1 Дэкларацыі, суверэнная беларуская дзяржава павінна забяспечыць у першую чаргу неад'емнае права народа на самавызначэнне, на дзяржаўнасць беларускай мовы, на вяршэнства ў вызначэнні свайго лёсу.

На дзяржаву ўскладаецца таксама абавязацельства ахоўваць і абараняць «нацыянальную дзяржаўнасць беларускага народа». Пры гэтым падкрэсліваецца, што любыя дзеянні супраць нацыянальнай дзяржаўнасці з боку партый, аб'яднанняў ці асоб пераследуюцца па законе.

У артыкуле 2 Дэкларацыі гаворыцца пра тое, што народ з'яўляецца носьбітам суверэнітэту і адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў рэспубліцы. Правам выступаць ад імя народа надзяляецца выключна Вярхоўны Савет (нацыянальны парламент).

На дзяржаву ўскладаецца абавязак ахоўваць гонар, здароўе, правы і законныя інтарэсы сваіх грамадзян, забяспечваць іх сацыяльную абароненасць.

Згодна з артыкулам 7 Дэкларацыі, на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь усталёўваецца вяршэнства Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь. Гэта азначае, што ў іерархіі прававых актаў пануючае месца павінна належаць Канстытуцыі і законам, а ўсе іншыя прававыя акты (кшталту ўказаў і дэкрэтаў) павінны ім адпавядаць.

У плане забеспячэння нацыянальнай дзяржаўнасці важнае значэнне мае артыкул 9 Дэкларацыі. У ім адзначаецца, што Рэспубліка Беларусь самастойная ў рашэнні пытанняў культурнага і духоўнага развіцця беларускай нацыі, іншых нацыянальных супольнасцяў рэспублікі, у стварэнні ўласнай сістэмы інфармацыі, адукацыі і выхавання. Пры гэтым асаблівая ўвага звярталася на функцыянаванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, на захаванне нацыянальных традыцый і гістарычнай сімволікі. Падкрэслівалася, што нацыянальныя, культурныя і гістарычныя каштоўнасці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца выключнай уласнасцю рэспублікі і яе грамадзян.

У артыкуле 10 усталёўваецца, што ніякія вайсковыя фармаванні іншых краін, іх ваенныя базы і пабудовы не могуць быць размешчаны на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь без згоды Вярхоўнага Савета. Акрамя таго, адзначалася, што Беларусь ставіць сваёй мэтай зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а рэспубліку — нейтральнай дзяржавай.

**27 лютага 1991 года быў прыняты Закон «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Рэспубліцы Беларусь». У ім пацвярджалася, што менавіта народ, а не нейкія дзяржаўныя органы або службовыя асобы, з'яўляецца носьбітам суверэнітэту і адзінай крыніцай улады ў краіне**

### Што было?

Першапачаткова органы дзяржаўнай улады дзейнічалі ў рамках нацыянальнай дзяржаўнасці. З 26 студзеня 1990 года дзейнічаў Закон «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь». У яго прэамбуле ўтрымліваліся ўзнёслыя словы пра тое, што мова — гэта душа народа, частка ягонай культуры. На ўсіх ускладаецца абавязак шанаваць родную мову, садзейнічаць яе развіццю і росквіту. На дзяржаўным узроўні была прынята праграма развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моваў у Беларусі, якая прадугледжвала паступовы пераход на беларускую мову ва ўсіх сферах беларускага грамадства.

27 лютага 1991 года быў прыняты Закон "Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Рэспубліцы Беларусь". У ім пацвярджалася, што менавіта народ, а не нейкія дзяржаўныя органы або службовыя асобы, з'яўляецца носьбітам суверэнітэту і адзінай крыніцай улады ў краіне. Усталёўвалася, што найважнейшай задачай усіх органаў улады з'яўляецца служэнне народу і ўсялякае забеспячэнне правоў, свабод і законных інтарэсаў грамадзян.

19 верасня 1991 года былі прыняты Законы «Аб Дзяржаўным гербе Рэспублікі Беларусь» і «Аб Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь». У адпаведнасці з імі ўводзіліся нацыянальныя гістарычныя сімвалы рэспублікі: герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг.

Працягам Дэкларацыі стала Канстытуцыя 1994 года. Але яна ўводзіла не прадугледжаны ў Дэкларацыі інстытут прэзідэнцкай улады. Пасада прэзідэнта не ўпісвалася ў прынцып падзелу ўладаў і ў механізм стрымак і процівагі. Пазней гэтая пасада стала разбуральнай для ўсёй сістэмы дзяржаўнай улады і стварыла шмат праблем для развіцця краіны.

### І што будзе?

Калі мы імкнёмся да пабудовы сапраўды прававой дзяржавы, то ў такой дзяржаве павінны выконвацца ўсе законы. Асабліва, Асноўны закон — Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь і канстытуцыйны закон — Дэкларацыя аб суверэнітэце. Зараз гэтыя два дакументы фактычна не дзейнічаюць. Але іх ніхто не адмяняў. Гэта значыць, дзяржаўная мова ў краіне павінна быць беларуская, бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» падлягаюць ахове з боку дзяржавы, а не цкаванню. Легітымнасць знаходжання ў Беларусі расійскіх вайсковых базаў — пад сумневам.

А яшчэ Дэкларацыя аб суверэнітэце дазваляе свабодна, і нікога не папярэджваючы, выйсці з усіх «саюзаў», якія створаныя без згоды народа. На сёння гэта для нас надзвычай актуальна.

**Паважаныя чытачы! Свае пытанні па абароне правоў чалавека вы можаце задаць Міхаілу Пастухову, даслаўшы іх у рэдакцыю, альбо ў каментарах пад артыкулам на сайце novychas.info.**

TV

## 12 МАЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.50** Драма «Трэцяя сусветная» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**16.30** Дак. цыкл «Сямейныя меладрамы».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Арэна.
**19.40, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Прэм'ера! Меладрама «Развітанне».
**23.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.30** Чэмпіянат свету па хакеі - 2014. Агляд.
**00.55** Дзень спорту.

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.10** «Справа ваша...».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Зваротны адлік».
**18.50** Чакай мяне.
**20.00** Час.
**21.05** АНТ прадстаўляе: Ток-шоў «Пазіцыя».
**22.05** Канцэрт групы БІ-2.
**23.50** Мастацкі фільм «Мінулай ноччу ў Нью-Ёрку».
**01.30** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.40** «Гарачы лёд».
**09.50** «Вялікі сняданак».
**10.40** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**10.45** «Прошаная вячэра».
**11.40** «Такі лёс».
**12.30** «Сямейныя драмы».
**13.50** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**13.55** «Вялікі горад».
**14.35** «Не хлусі мне!».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**18.35** «Мае цудоўныя...».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Паляўнічы». Аўстралія, 2011г. (Пачатак).
**20.30** «Гарачы лёд».
**20.40** Фільм «Паляўнічы». Аўстралія, 2011г. (Працяг).
**22.20** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**23.05** «Ваенная таямніца».
**00.15** «Знахар». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца добрага дня.
**08.00** Раніца.
**09.00, 10.15, 21.20** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Прыгоды натарыуса Нягліндава» (Расія).
**10.50, 00.15** Дэтэктыў «Лялькі ведзьмака».
**12.55** «Радзіма ці смерць». Мастацкі фільм.
**13.35** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**14.05** Кіпень.
**14.35, 23.55** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**15.10** Мультсерыял.
**15.35** Тайм-аўт.
**15.55** Культурная сталіца.
**16.15** Пытанне здароўя.
**16.40** 20.40 Хакей.
**19.05** Дэтэктыў «Метад Фрэйда».
**23.00** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**01.30** Музычны конкурс «GBOB» у Беларусі.

### 3 Беларусь

**07.20** «Дабраранак»..
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Сімвалы эпохі». Інтурысты.
**08.20** «Іван Макаравіч». Мастацкі фільм.
**09.45** «Дыя@блог». «Пра мову».
**10.10** Серыял. «Мегрэ».
**10.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара Леаніда Давідзенкі.
**11.25** «Размаўляем па-беларуску».
**11.30** «За любімую Беларусь!». Канцэрт ансамбля «Сябры» з удзелам С.Герасімава, Аляксея Хлястова, Пятра Ялфімава, Паліны Смолавай, Алесі, гурта «Тяни-Толкай».
**13.00** «Калейдаскоп».
**13.10** «Сімвалы эпохі». Інтурысты.
**13.20** «Забытыя імёны. Мікалай Мінскі». Дакументальны фільм пра лёс і творчасць паэта, аднаго з заснавальнікаў сімвалізма.
**13.50** «Цуды прыроды». Чэхія. Куба. Фіджы.
**14.20** «Росчырк часу». Творчасць фотамастака, мастацтвазнаўцы Алега Ананьева.
**14.30** «Размаўляем па-беларуску».
**14.35** Мультфільмы.
**15.00** «Калейдаскоп».
**15.10** «Сімвалы эпохі». Інтурысты.
**15.25** «Доўгія вёрсты вайны». Мастацкі фільм паводле аповесцяў Васіля Быкава. Фільм першы «Жураўліны крык».
**16.40** «Доўгія вёрсты вайны». Мастацкі фільм паводле аповесцяў Васіля Быкава. Фільм другі «Атака з ходу».
**17.45** «Доўгія вёрсты вайны». Мастацкі фільм паводле аповесцяў Васіля Быкава. Фільм трэці «На ўзыходзе сонца».
**18.55** «Васіль Корж. Урокі жыцця». Дак. фільм пра партызана, Героя Савецкага Саюза.
**19.25** «Тэатральны ліцэй». Экран і сцэна. Успаміны Анатоля Смялянскага аб розных момантах з жыцця школы-студыі МХАТа.
**19.50** «Сышчык Пуцілін». Мастацкі фільм. 1-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**22.05** «Дыя@блог». «Пра мову».
**22.30** «Аляксандр Неўскі». Мастацкі фільм.
**00.15** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара Леаніда Давідзенкі.
**00.40** «Калейдаскоп».
**00.50** «Сімвалы эпохі». Інтурысты.

### 5 Беларусь

**07.30** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Агляд дня.
**09.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга.
**10.50** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Беларусь - Казахстан.
**12.40** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Фінляндыя - Расія.
**14.30** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Агляд дня.
**16.00** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Прэв'ю.
**16.40** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Славакія - Францыя. Прамая трансляцыя.
**19.30** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Агляд двух згуляных матчаў.
**20.00** Час футболу.
**20.40** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Расія - ЗША. Прамая трансляцыя.
**23.00** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Швейцарыя - Беларусь.
**00.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.05** Форум (ток-шоў): Урокі Майдану. Што рабіць беларусам?.
**08.50** Фітнес-шмітнес.
**09.10** Два на два (тэледыскусія): Аляксей Ластоўскі і Ян Шумскі: Памяць беларусаў пра ІІ сусветную вайну.
**09.40** Дакументальная гадзіна: «ГУЛаг», дак. фільм: 2 серыя.
**10.35** Эксперт (сатырычная праграма).
**11.05** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.35** «Горад з Мора», серыял: 1 серыя.
**12.20** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**12.45** Два на два (тэледыскусія): Аляксей Ластоўскі і Ян Шумскі: Памяць беларусаў пра ІІ сусветную вайну.
**13.20** Зона «Свабоды».
**13.55** Форум (ток-шоў): Урокі Майдану. Што рабіць беларусам?.
**14.40** Фітнес-шмітнес.
**15.00** «Жыццё ў лепшым свеце», дак. фільм, 2009 г., Францыя.
**15.55** «Рычард ІІІ», гіст драма, 1996 г., ЗША–Вялікабрытанія–Канада.
**17.35** «Лыжачка жыцця», дак. фільм, 2004 г., Польшча.
**18.00** «Горад з Мора», серыял: 1 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Dэвайс.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.35** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**22.10** «Рычард ІІІ», гіст драма, 1996 г., ЗША–Вялікабрытанія–Канада.
**23.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.30** Асабісты капітал.
**01.50** Аб'ектыў.
**02.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.35** Відзьмо-невідзьмо.

## 13 МАЯ, АЎТОРАК

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладрама «Развітанне» (Расія).
**11.05** Лірычная камедыя «Як выйсці замуж за мільянера» (Расія).
**13.00** Дэтэктыў «Сіндром цмока».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**16.25** Дак. цыкл «Сямейныя меладрамы».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.20** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Лірычная камедыя «Як выйсці замуж за мільянера» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Ваенны баявік «Дыверсант». (Расія).
**03.50** Вечар цяжкага дня.
**00.40** Сфера інтарэсаў.
**01.10** Чэмпіянат свету па хакеі - 2014. Агляд.
**01.35** Дзень спорту.
**01.50** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** Кантрольны закуп.
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.10** «Справа ваша...».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Дзяўчыны». Серыял.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Кураж». Шматсерыйны фільм.
**23.15** Мастацкі фільм «Вялікі перапалох у маленькім Кітаі».
**01.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Гарачы лёд».
**09.10** «Ежа багоў». Дак. спецпраект.
**10.05** «Уявіце сабе».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**10.45** «Прошаная вячэра».
**11.35** «У нас усе дома». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**13.55** Фільм «Жонка мастака». Данія - Швецыя, 2012 г.
**15.45** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**18.35** «Мае цудоўныя...».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Зора». Італія - Францыя, 1975г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**23.05** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Знахар». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца добрага дня.
**08.00** Раніца.
**09.00** 10.15, 21.20 Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Прыгоды натарыуса Нягліндава» (Расія).
**10.15** Беларуская кухня.
**10.55, 00.00** Дэтэктыў «Лялькі ведзьмака».
**12.05, 19.05** Дэтэктыў «Метад Фрэйда».
**13.10, 23.00** Серыял «Рэальныя мальцы».
**14.14** Вышэй за дах.
**15.10** Мультсерыял.
**15.35** Знак веры.
**16.40, 20.40** Хакей.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**00.50** Музычны конкурс «GBOB» у Беларусі.

### 3 Беларусь

**07.20** «Дабраранак»..
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Сімвалы эпохі». Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі - ВДНГ.
**08.20** «Сышчык Пуцілін». Маст. фільм. 1 серыя.
**09.15** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**09.45** Серыял. «Мегрэ».
**10.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнай артысткі СССР і Беларусі Стэфаніі Станюты.
**11.00** «Размаўляем па-беларуску».
**11.05** «Аляксандр Неўскі». Мастацкі фільм.
**12.50** «Калейдаскоп».
**13.00** «Сімвалы эпохі». Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі - ВДНГ.
**13.10** «Настальжы». Творчасць спевака Віктара Вуячыча.
**13.40** «Дрысвяты. Песня і лёс». Дак. фільм.
**14.15** «Размаўляем па-беларуску».
**14.20** «Наша спадчына». Пояс караля Стэфанія Баторыя.
**14.35** «Лазер Алфёрава». Дак. фільм.
**14.55** «Калейдаскоп».
**15.05** «Сімвалы эпохі». Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі - ВДНГ.
**15.20** «Карані». Пісьменнік Уладзімір Сідарук, які жыве недалёка ад вёскі Чаромха і піша пра жыццё людзей Беласточчыны.
**15.50** Мультфільмы.
**16.15** «Музей Янкі Купалы». Дакументальны фільм пра экспазіцыю музея і яго філіялы.
**16.35** «Цуды прыроды». Арктыка. Канада.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.10** «Сімвалы эпохі». Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі - ВДНГ.
**17.20** «Сёмае неба Паўла Масленікава». Дакументальны фільм пра мастака, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, былога рэктара Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.
**17.50** «Скарбніца Гарадзеншчыны». Стары замак у Гродне.
**18.20** «Лёс. Рэжысёр Сяргей Лазніца». Дак. фільм.
**18.40** «Размаўляем па-беларуску».
**18.45** «Мост». Дак. фільм пра масты Пецярбурга.
**19.10** «Палескі пачастунак». Яешня.
**19.25** «Сад маёй душы». Дак. фільм пра Батанічны сад у Мінску і яго супрацоўнікаў.
**19.55** «Сышчык Пуцілін». Маст. фільм. 2 серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**22.05** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.30** «Мама, я жывы!». Мастацкі фільм.
**23.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнай артысткі СССР і Беларусі Стэфаніі Станюты.
**00.05** «Калейдаскоп».
**00.15** «Сімвалы эпохі». Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі - ВДНГ.

### 5 Беларусь

**07.20** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Агляд.
**08.20** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Расія - ЗША.
**10.10** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Швейцарыя - Беларусь.
**12.00** Тэніс. Турнір ВТА. Рым. Прамая трансляцыя.
**13.50** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Чэхія - Канада.
**15.40** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Агляд.
**16.40** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Германія - Фінляндыя. Прамая трансляцыя.
**19.15** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Агляд двух згуляных матчаў.
**19.55** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Прэв'ю.
**20.40** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Казахстан - Латвія. Прамая трансляцыя.
**23.15** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Нарвегія - Швецыя.
**01.05** Спорт-кадр.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35** Асабісты капітал.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**09.40** Відзьмо-невідзьмо.
**10.10** Два на два (тэледыскусія): Аляксей Ластоўскі і Ян Шумскі: Памяць беларусаў пра ІІ сусветную вайну.
**10.45** «Бывайце, дзеці...», маст. фільм, Францыя.
**12.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**14.05** Асабісты капітал.
**14.25** Аб'ектыў.
**14.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**15.10** Відзьмо-невідзьмо.
**15.40** Два на два (тэледыскусія): Аляксей Ластоўскі і Ян Шумскі: Памяць беларусаў пра ІІ сусветную вайну.
**16.10** «Бывайце, дзеці...», маст. фільм, 1987 г., Францыя.
**17.55** «ГУЛаг», дак. фільм: 2 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00, 19.30** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20, 20.15** Гарачы каментар.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.25** Тэатр ваенных дзеянняў.
**20.40** Без межаў.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Чорным па белым: Сучаснае мастацтва: місія ці рамяство?
**22.10** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў.
**23.05** Форум (ток-шоў): Урокі Майдану. Што рабіць беларусам?.
**23.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.

TV

## 16 МАЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Баявік «Дыверсант. Канец вайны».
**11.05** Камедыя «Як выйсці замуж за мільянера - 2». (Расія).
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.05** Меладрама «Другое дыханне». (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**16.25** Дак. цыкл «Сямейныя меладрамы».
**17.15** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда».
**18.10** Таямніцы следства.
**19.20** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Камедыя «Як выйсці замуж за мільянера - 2». (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Нашы.
**22.45** Фантастычная камедыя «Людзі ў чорным». (ЗША).
**23.50** Вечар цяжкага дня.
**23.55** Дзень спорту.
**00.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**01.55** Чэмпіянат свету па хакеі - 2014. Агляд.

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** Кантрольны закуп.
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.10** «Справа ваша...».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Зваротны адлік».
**15.30** «Вучыцца жыць».
**16.15** Мастацкі фільм «Мой каханы блазан».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Чакай мяне Беларусь».
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Вячэрні Мінск».
**22.20** «Што? Дзе? Калі? у Беларусі».
**23.40** Мастацкі фільм «Някіравальны».
**01.30** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** Дзённік «Дзеці - гэта ХорашОў».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Гарачы лёд».
**09.10** «Дакументальны спецпраект».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** Дзённік «Дзеці - гэта ХорашОў».
**10.45** «Прошаная вячэра».
**11.35** «У нас усе дома». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.50** Дзённік «Дзеці - гэта ХорашОў».
**13.55** Фільм «Карабель-здань». ЗША - Аўстралія, 2002 г.
**15.35** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Дзённік «Дзеці - гэта ХорашОў».
**18.35** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** СТБ прадстаўляе: 1/8 фіналу Цэнтральнай Міжнароднай лігі КВЗ.
**22.00, 23.05** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Дзённік «Дзеці - гэта ХорашОў».
**23.05** Вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час». (Працяг.)
**23.55** «Вялікая гульня». Покер.
**00.40** Фільм «Лэдзі Гамільтан». 1941 г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца добрага дня.
**08.00** Раніца.
**09.00, 10.15, 21.20** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Прыгоды натарыуса Няглінцава» (Расія).
**10.20** Стыль-бюро.
**12.00** Кулінарная праграма.
**11.50** Дэтэктыў «Метад Фрэйда».
**13.00** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**14.05** Імперыя песні.
**15.10** Малаток!
**16.00** Рэгіянальная праграма.
**16.40, 20.40** Хакей.
**19.05** Кіпень.
**19.25** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**23.00** Рэпарцёр.
**23.45** Камедыя «ПРадзюсары».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10, 15.05, 17.05, 01.00** «Сімвалы эпохі». Балалайка.
**08.20** «Сышчык Пуцілін». Маст. фільм. 4 серыя.
**09.15** «Лёс гігантаў». «Трабант». Дак. фільм.
**09.40** Серыял «Мегрэ».
**10.35** «Свята далёкай зоркі». Памяці мастака-графіка Анатоля Тычыны.
**11.00** «Размаўляем па-беларуску».
**11.05** «Трэцяя ракета». Мастацкі фільм паводле аднайменнай аповесці Васіля Быкава.
**12.20** «Калейдаскоп».
**12.30** «Сімвалы эпохі». Балалайка.
**12.45** «Шастаковіч буйным планам. Партрэт». Дакументальны фільм пра вялікага кампазітара XX стагоддзя Дзмітрыя Шастаковіча.
**13.45** «Наша спадчына». Фрэскавыя роспісы Мсціслава. 1-я і 2-я часткі.
**14.10** «Размаўляем па-беларуску».
**14.15** «Паром». Фільм па матывах апавядання У.Караткевіча «Паром на бурнай рацэ».
**14.55** «Калейдаскоп».
**15.15** «Камертон». Літоўскі тэнар, оперны спявак, віртуозны выканаўца рускага рамансу - Віргіліус Нарэйка.
**15.45** «Цуды прыроды». Мадэйра. Тайвань. Балі.
**16.10** «Размаўляем па-беларуску».
**16.15** Мультфільмы.
**16.30** «Тэатральны ліцэй». Галінкі і карані. Як увасобілася ідэя У.І.Неміровіча-Данчанкі, і школа-студыя МХАТ стала паўнавартаснай навучальнай установай.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.20** «Падарожжа са смакам». Германія.
**17.50** «Фабрыка цудаў». Дак. фільм пра таямніцы стварэння анімацыйных фільмаў. Фільм 2. «Аўтар сцэнарыя».
**18.20** «Адвечным шляхам». Дак. фільм пра лёс і творчасць філосафа, паэта І.Канчэўскага.
**18.30** «Размаўляем па-беларуску».
**18.35** «Пейзажы скрозь час». Пейзажы Джона Ф. Кэнсэта на Востраве задавальнення.
**19.05** «Скарбніца Міншчыны».
**19.30** «Выстрал». Мастацкі фільм паводле аднайменнай аповесці А.С.Пушкіна.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял «Мегрэ».
**22.00** «Лёс гігантаў». «Трабант». Дак. фільм.
**22.30** «Я люблю тебя, жизнь!». Творчы вечар акцёра тэатра і кіно, спевака і кампазітара Анатоля Друзскага.
**00.00** «АРТиШОК». Фатограф Даніїл Парнюк.
**00.25** «Свята далёкай зоркі». Памяці мастака-графіка Анатоля Тычыны.
**00.55** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.50** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Агляд.
**08.50** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. БАТЭ - Дынама (Мінск).
**10.35** «На шляху да чэмпіянату свету па футболе - 2014».
**11.05** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Фінляндыя - Беларусь.
**13.00** Тэніс. Турнір ВТА. Рым. 1/4 фіналу. Прамая трансляцыя.
**15.05** Фактар сілы.
**15.40** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Агляд.
**16.40** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. ЗША - Казахстан. Прамая трансляцыя.
**19.15** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Агляд двух згуляных матчаў.
**19.55** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Прэв'ю.
**20.40** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Фінляндыя - Швейцарыя. Прамая трансляцыя.
**23.15** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Швецыя - Славакія.
**01.05** Еўрапейскі покерны тур.

### БЕЛСАТ tv

**07.00, 09.25, 12.20, 14.45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Рэпартэр.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.40** Два на два (тэледыскусія): Раман Якаўлеўскі і Андрэй Ляховіч.
**10.15** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.35** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 5 серыя.
**11.20** «Амаль сужэнцы», дак. фільм, 2010 г., Італія–Турцыя.
**13.55** Рэпартэр.
**14.20** Аб'ектыў.
**15.05** Два на два (тэледыскусія): Раман Якаўлеўскі і Андрэй Ляховіч.
**15.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.00** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 5 серыя.
**16.45** «Амаль сужэнцы», дак. фільм, 2010 г., Італія–Турцыя.
**17.45** «Цуд на Пурым», маст. фільм.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00, 19.30** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20, 20.15** Гарачы каментар.
**19.50** Дэвайс.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.30** ПраСвет.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Наста Шпакоўская.
**22.15** «Надзея», маст. фільм, 2008 г., Польшча.
**00.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.

## 17 МАЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.45** Існасць.
**07.15** Меладрама «Калі б я цябе кахаў...» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Клуб рэдактараў.
**09.50** Камедыйны серыял «Сваты 3» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** Дача.
**12.10** Давярай і правярай.
**12.50** Здароўе.
**13.35** Журналісцкае расследаванне.
**14.10** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Давярай і правярай.
**16.00** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).
**17.15** Меладрама «Я падару сабе цуд». (Расія).
**19.00** Меладрама «Мільянер» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.40** Драма «У Парыж». (Расія).
**23.55** серыял «Сваты 3» (Украіна).
**01.50** Чэмпіянат свету па хакеі -2014. Агляд дня.
**01.150 Дзень спорту.**
**01.25** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.20** «Здароўе».
**10.25** Смак.
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** Камедыя «Гарфілд».
**14.25** Камедыя «Самая абаяльная і прывабная».
**13.30** «Пакроўскія вароты». Мастацкі фільм .
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** АНТ прадстаўляе «Бацькоў у школу».
**17.15** АНТ прадстаўляе «Адзін супраць усіх».
**18.05** АНТ прадстаўляе: «Акадэмія талентаў».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Якраз як».
**23.55** Мастацкі фільм «300 спартанцаў».

### СТВ

**06.05** «Студэнты». Серыял.
**07.45** Фільм «Лэдзі Гамільтан». Вялікабрытанія, 1941г.
**10.00** «Іншая краіна».
**11.05** «Уявіце сабе».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** Фільм «Пасля кірмаша». Беларусьфільм, 1972г.
**15.00** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Дзіўная справа».
**18.40** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Адвакат д'ябла». ЗША - Германія, 1997г. (Пачатак).
**20.30** «Гарачы лёд».
**20.40** Фільм «Адвакат д'ябла». ЗША - Германія, 1997г. (Працяг).
**23.00** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг. Новы сезон.
**00.05** Фільм «Блэйд». ЗША, 1998г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Ластаўчына гняздо». Серыял.
**08.15, 20.35** Тэлебарометр.
**08.20** Мастацкі фільм «Пярсцёнак княгіні Ганны».
**09.45** Беларуская кухня.
**10.25** Кулінарная праграма.
**11.00, 23.05** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**12.40, 16.40, 20.40** Хакей.
**15.00** Вышэй за дах.
**15.35** Імперыя песні.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.10** Кіпень.
**00.20** Камедыя «З 13 у 30».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Сімвалы эпохі». Аўтамабіль «Волга».
**08.20** «Сіла веры».
**08.50** «АРТиШОК». Фатограф Даніїл Парнюк.
**09.15** «Выстрал». Мастацкі фільм паводле аднайменнай аповесці А.С.Пушкіна.
**10.30** «Наперад у мінулае».
**10.55** «Калейдаскоп».
**11.05** «Сімвалы эпохі». Аўтамабіль «Волга».
**11.20** «Тэатральны ліцэй». Астравок у Камергерскім.
**11.45** «Найменні і вобразы». Творчасць разьбяра Івана Супрунчыка.
**12.00** «Сцежкай ваўка». Дакументальны фільм пра складаныя ўзаемаадносіны чалавека і ваўка.
**12.35** «Размаўляем па-беларуску».
**12.40** «Настальжы». Спявак Алег Ціўноў.
**13.10** «Калейдаскоп».
**13.15** «Сімвалы эпохі». Аўтамабіль «Волга».
**13.30** «Скарбніца Гарадзейшчыны». Гарадзенская жамчужына. Каложская царква ў Гродна.
**14.00** «Малады дубок». Кароткаметражны фільм паводле аднайменнага твора Якуба Коласа.
**14.25** «Лёс старой кнігі». Дак. фільм пра ўнікальныя кніжныя помнікі - рукапісныя кнігі XVI-XIX стагоддзяў, якія захоўваюцца ў Веткаўскім музеі Гомельскай вобласці.
**14.40** «Аляксей Саўрасаў». Дакументальны фільм пра жыццё і творчасць рускага мастака-перадзвіжніка.
**15.00** «Калейдаскоп».
**15.10** «Сімвалы эпохі». Аўтамабіль «Волга».
**15.25** Мультфільмы.
**15.45** «Я люблю тебя, жизнь!». Творчы вечар акцёра тэатра і кіно, спевака і кампазітара Анатоля Друзскага.
**17.15** «Калейдаскоп».
**17.25** «Сімвалы эпохі». Аўтамабіль «Волга».
**17.35** «Уладзімір Арсеньеў. Капітан тайгі». Дакументальны фільм пра вядомага пісьменніка і падарожніка.
**18.30** «Дэрсу Узала». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.10** Сусветнае кіно. «Знахар». Паводле аповесці Тадэвуша Даленгі-Мастовіча. 1-я і 2-я серыі.
**23.15** «Аляксандра-Неўская Лаўра». Пра адзін з самых вядомых духоўных цэнтраў Расіі разважае музыкант Юрый Шаўчук і манахі Лаўры.
**00.20** «Сіла веры».
**00.45** «Калейдаскоп».
**00.55** «Сімвалы эпохі». Аўтамабіль «Волга».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**08.00** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Фінляндыя - Швейцарыя.
**09.45** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Швецыя - Славакія.
**11.40** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Агляд дня.
**12.40** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Латвія - Расія. Прамая трансляцыя.
**15.15** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Агляд двух згуляных матчаў.
**15.55** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Прэв'ю.
**16.40** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Данія - Чэхія. Прамая трансляцыя.
**19.00** Тэніс. Турнір ВТА. Рым. 1/2 фіналу.
**20.40** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Швейцарыя - Казахстан. Прамая трансляцыя.
**23.00** Тэніс. Турнір ВТА. Рым. 1/2 фіналу.
**01.00** Еўрапейскі покерны тур.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** ПраСвет.
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**09.45** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Наста Шпакоўская.
**10.15** Казкі для дзетак: «Казкі з-за акна», «Прыгоды Ціўкі», «Занатоўкі натураліста».
**10.40** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 12 серыя.
**11.10** Два на два (тэледыскусія): Раман Якаўлеўскі і Андрэй Ляховіч.
**11.40** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**12.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.30** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў.
**13.25** «Амаль сужэнцы», дак. фільм, 2010 г., Італія–Турцыя.
**14.25** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2014», канцэрт: выступ гурта «Amaroka».
**14.55** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**15.50** Без рэтушы: «Куды адплылі пінскія караблі?», рэпартаж, 2012 г., Польшча.
**16.15** «Надзея», маст. фільм, 2008 г., Польшча.
**17.55** «Апантаныя-2», дак. цыкл.
**18.05** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**18.30** Фітнес-шмітнес.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Вынаходлівы Дабрамір».
**19.05** Моўнік (лінгвістычная праграма): Яўрэі. Жыды. Габрэі.
**19.15** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**19.30** «Горад з Мора», серыял: 2 серыя.
**20.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь: «Шчаслівыя людзі», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**21.50** Суботні сеанс: «Другі шанц», псіхалагічны трылер, 2010 г., Канада.
**23.20** «Сіроты Тыбету», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**00.15** Аб'ектыў.

TV

## 18 МАЯ, НЯДЗЕЛЯ

### БЕЛАРУСЬ 1

**07.15** Трагікамедыя «Марафон» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты 3».
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** Зона Х.
**13.15** Каробка перадач.
**13.50** Таямніцы следства.
**14.30** БеларусьLIFE.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Еўрабачанне. За кадрам.
**15.55** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**17.15** Камедыйная меладрама «Маладыя» (Расія).
**19.00** Меладрама «Калі б я цябе кахаў…» (Расія).
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Крымінальны трылер «Чысцільшчык» (ЗША).
**23.55** Камедыйны серыял «Сваты 3».
**00.50** Чэмпіянат свету па хакеі -2014. Агляд дня.

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** Вясельны перапалох.
**12.15** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.30** Камедыя «Гарфілд: гісторыя дзвюх котачак».
**15.05** Віталь Саломін. Паміж «Ватсанам « і «Зімняй вішняй».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Драма «Аркадыя».
**18.00** АНТ прадстаўляе: «Рассмяшы коміка».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Фінал конкурсу прыгажосці. Містар Беларусь -2014.
**22.55** Мастацкі фільм «Закладніца».
**00.40** Камедыя «Дзелавыя людзі».

### СТВ

**06.10** «Студэнты». Серыял.
**07.05** Фільм «Адвакат д'ябла». ЗША - Германія, 1997г. (Пачатак).
**09.00** «Гарачы лёд».
**09.10** Фільм «Адвакат д'ябла». ЗША - Германія, 1997г. (Працяг).
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Вазьму твой боль». Беларусьфільм, 1980г. (Пачатак).
**13.30** «24 гадзіны».
**13.45** Фільм «Вазьму твой боль». Беларусьфільм, 1980г. (Працяг).
**14.35** Канцэрт М.Задорнава.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Чатыры вяселлі».
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** СТБ прадстаўляе: Міжнародны музычны праект «Дзеці - гэта ХораШоў». 1-ы паўфінал.
**21.45** Фільм «Гісторыя пра нас». ЗША, 1999г.
**23.35** «Дакументальны спецпраект».
**00.30** Фільм «Генуя». Вялікабрытанія, 2008г.

### БЕЛАРУСЬ 2

**06.55** «Ластаўчына гняздо». Серыял.
**07.55, 20.05** Тэлебарометр.
**08.00** Мастацкі фільм «Бяляначка і ружанька».
**09.10** Заўтра - гэта мы!
**09.40** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня».
**10.15, 23.00** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**12.20** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**13.30** Аўтабатл.
**14.05** Стыль-бюро.
**14.40** Камедыя «3 13 у 30».
**16.40, 20.40** Хакей.
**19.15** Суперлато.
**21.15** Спортлато 5 з 36, КЕНО.
**00.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.

### БЕЛАРУСЬ 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Дэрсу Узала». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**10.25** «Уладзімір Арсеньеў. Капітан тайгі». Дакументальны фільм пра вядомага пісьменніка і падарожніка.
**11.15** «Калейдаскоп».
**11.25** «Аляксандра-Неўская Лаўра». Пра адзін з самых вядомых духоўных цэнтраў Расіі разважае музыкант Юрый Шаўчук і манахі Лаўры.
**12.30** «Янка Маўр. Капітан дзіцячых мараў». Дакументальны фільм.
**12.55** «Размаўляем па-беларуску».
**13.00** Мультфільмы.
**13.20** «Калейдаскоп».
**13.30** А.Скрабін. «Боская паэма», ці Трэцяя сімфонія». Канцэрт у выкананні Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь. Дырыжор - Генадзь Праваторaў.
**14.20** «Палескі пачастунак». Бліны і зацірка.
**14.35** «Канструктывізм». Дакументальны фільм пра маскоўскі канструктывізм.
**15.00** «Калейдаскоп».
**15.10** «Карані». Жанчыны Кішынёва.
**15.35** «Плошча мастацтваў». Кампазітар, народны артыст Беларусі Валерый Іваноў.
**16.05** «Падарожжа са смакам». Турцыя.
**16.35** «Наперад у мінулае».
**17.05** Дзіцячы фільм. «Юрка - сын камандзіра».
**18.15** «Культпрасвет».
**18.40** Сусветнае кіно. «Знахар». Паводле аповесці Тадэвуша Даленгі-Мастовіча. 1-я і 2-я серыі.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** «Мой шлях». Творчы вечар народнага артыста Беларусі Уладзіміра Гасцюхіна.
**22.05** «Узыходжанне». Мастацкі фільм паводле аповесці Васіля Быкава «Сотнікаў».
**23.55** «Культпрасвет».
**0.20 «Калейдаскоп».**

### БЕЛАРУСЬ 5

**07.30** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Славакія - Італія.
**09.15** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Беларусь - Германія.
**11.05** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Латвія - Расія.
**13.00** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Агляд дня.
**14.30** Тэніс. Турнір ВТА. Рым. Фінал. Прамая трансляцыя.
**16.40** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. ЗША - Фінляндыя. Прамая трансляцыя.
**19.15** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Агляд двух згуляных матчаў.
**19.55** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Прэвію.
**20.40** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Расія - Германія. Прамая трансляцыя.
**23.15** Тэніс. Турнір ВТА. Рым. Фінал.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Вынаходлівы Дабрамір».
**07.50** «Таямніца Сагалі», серыял: 4 серыя.
**08.20** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.55** «Апантаныя-2», дак. цыкл.
**09.05** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Сучаснае мастацтва: місія ці рамяство?.
**09.30** Без рэтушы: «Старыя Дарогі», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**09.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.15** Невядомая Беларусь: «Шчаслівыя людзі», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**10.50** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Вынаходлівы Дабрамір».
**11.30** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 12 серыя.
**12.00** «Таямніца Сагалі», серыял: 4 серыя.
**12.25** «Сіроты Тыбету», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**13.20** Фітнес-шмітнес.
**13.40** «Дэфект», тэлесерыял: 6 серыя.
**14.35** «Другі шанц», псіхалагічны трылер, 2010 г., Канада.
**16.05** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю – 2014», канцэрт: выступ гурта «Kozak System».
**16.40** «Горад з Мора», серыял: 2 серыя.
**17.25** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**18.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Вынаходлівы Дабрамір».
**19.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Кастусь Каліноўскі.
**19.10** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**19.40** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.15** Дакументальная гадзіна: «ГУЛаг», дак. фільм: 3 серыя.
**21.10** Фільматэка майстроў: Цырк «Каламбія», драма, 2010 г., Боснія.
**23.05** Зоры не спяць: Наста Шпакоўская.
**23.40** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**

**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. ______ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

# У краіне Рахмона

**20-ю гадавіну прыходу да ўлады ў гэтым годзе святкуе і таджыкскі гарант Імамалі Рахмон. Пра палітычныя рэаліі Таджыкістану і падзеі ў Цэнтральнай Азіі журналісту «Новага Часу» Алегу Новікаву распавядае таджыкскі кінематаграфіст і праваабаронца Хайдар Зайдаў.**



***— Як вядома, апошнія прэзідэнцкія выбары ў Таджыкістане мелі месца ўвосень мінулага года. Адным з галоўных сюрпрызаў кампаніі было абранне ў якасці галоўнага кандыдата ад апазіцыі жанчыны — Айніхол Бабаназаравай. Выбар не незвычайны, у тым ліку таму, што шкілетам таджыкскай апазіцыі з'яўляецца Партыя ісламскага адраджэння Таджыкістану (ПІАТ).***

— Іслам не забараняе жанчыне займацца палітыкай або бізнэсам. Можна ўзгадаць шмат жанчын, якія сталі палітычнымі лідарамі ў ісламскіх краінах. У ісламскай тэалогіі ёсць нейкія абмежаванні для жанчын, якія займаюцца публічнымі справамі. Накшталт таго, што жанчыну ў падобных выпадках павінен прадстаўляць мужчына, аднак гэта неабавязкова. Мяркую, што, абіраючы жанчыну ў якасці кандыдата, апазіцыйныя лідары кіраваліся іншым чыннікам. Кандыдатуру жанчыны можна растлумачыць пытаннямі бяспекі. У нас даўно мае месца практыка, калі ўлада жорстка распраўляецца з лідарамі апазіцыі або яскравымі асобамі ў гэтым лагеры. Звычайна, ім прад'яўляюць артыкулы пра кантрабанду наркотыкаў, утрыманне зброі або выкраданне людзей. У той жа час праява нейкага гвалту на адрас жанчыны сярод таджыкаў лічыцца хутчэй знакам слабасці. З'яўленне Айніхол як лідара апазіцыі зблытала ўсе карты ўладзе.

***— Цяперашні дзяржаўны лад шмат у чым заснаваны на кампраміссе паміж апазіцыяй і ўладай. Тады, пасля грамадзянскай вайны 1990-х гадоў, была падпісана мірная дамова. Фрагментарна на базе тэксту той жа дамовы пазней была створаная канстытуцыя, у якой асобна гарантуюцца правы ПІАТ, надаецца квота ў парламенце. Чаму зараз лагер апанентаў Рахмона выглядае такім слабым і разгубленым?***

— Па-першае, Рахмон падчас тых перамоваў дабіўся, каб правадыры тагачаснай апазіцыі фактычна сышлі з палітыкі. Узнік вакуум лідараў. Па-другое, таджыкі пасля той вайны сталі вельмі цаніць любы мір, і дзеля яго шмат чаго выбачаюць уладзе. Таксама ўсе баяцца, што новы рэжым сапсуе адносіны з Расіяй, дзе працуе шмат таджыкаў. Нарэшце, маргіналізацыі ПІАТ спрыяла тое, што яна фактычна ізаляваная звонку. У той час, як Масква матэрыяльна і вайскова падтрымлівае афіцыйны Душанбе, апазіцыя не мае саюзнікаў і знешняга рэсурсу. Вашынгтон і Еўропа баяцца мець справу з ісламістамі, тым больш, што раней у адной з фракцый ПІАТ былі добрыя адносіны з талібамі.

***— Цяпер вельмі папулярна прагназаваць, што будзе ў краінах Цэнтральнай Азіі пасля хуткага сыходу з Афганістану войскаў NATO. А ваш прагноз які?***

— Я аптыміст, і маю надзею, што празаходняя адміністрацыя ў Кабуле ўтрымаецца. У выпадку вяртання да ўлады талібаў не выключана, што яны паспрабуюць атакаваць рэгіён Сярэдняй Азіі. Тым больш, што ў некаторых краінах назіраецца адчужэнне народу ад улады. Перш за ўсё, гэта Узбекістан, дзе галоўную ролю ў апазіцыі гуляюць фундаменталісты. Тут і, дарэчы, у іншых краінах рэгіёну назіраецца масавае расчараванне мадэллю аўтарытарнай свецкай дзяржавы. Яна не здольная вырашаць эканамічныя праблемы і пры гэтым з-за сваёй аўтарытарнай прыроды брутальна лезе ў рэлігійнае жыццё. Нават у часы СССР мячэць так не кантралявалі, як зараз. Тады ўсе ведалі, што мулы супрацоўнічаюць з КДБ, аднак яны выконвалі абрады, як патрабуе канон. Цяпер улада баіцца царквы і намагаецца навязаць ёй свае парадкі. Напрыклад, Рахмон патрабуе прыпыніць вясельныя абрады або традыцыю раздачу ежы пасля абразання. На яго думку, гэта культывуе дух утрыманства. З гэтага года ў нас увялі ўніформу для ўсіх мулаў.

***— Як і кожны дыктатар, Рахмон павінен думаць пра пераемніка. Ці ўжо ёсць кандыдатура на пасаду наступнага прэзідэнта?***

— Усім вядома, што прэзідэнт хоча зрабіць пераемнікам свайго сына Рустама, якому зараз

**У той час, як Масква матэрыяльна і вайскова падтрымлівае афіцыйны Душанбе, апазіцыя не мае саюзнікаў і знешняга рэсурсу. Вашынгтон і Еўропа баяцца мець справу з ісламістамі**

21 год. Так здарылася, што калісьці я меў доступ у сям'ю тады яшчэ Рахмонавых, і ведаю асабіста яе чальцоў, у тым ліку Рустама. Ён на маіх вачах вырас з нармальнага хлопчыка ў нейкага самадура, які ў дадатак мае праблемы з алкаголем. Адсюль шмат скандалаў. Усе ведаюць, што Рустам забіў свайго дзядзьку падчас нейкай спрэчкі, хаця афіцыёз сцвярджае, што меў месца няшчасны выпадак на глебе неасцярожнага абыходжання са зброяй. Як бачым, выбар не лепшы. Таму не выключана, што Рахмон застанецца на сваёй пасадзе да канца жыцця. Дарэчы, рэферэндум 2005 года даў яму права «за вялікія заслугі перад таджыкскай нацыяй» быць прэзідэнтам пажыццёва.

***— У суседнім Узбекістане, падаецца, таксама назіраецца крызіс перадачы ўлады. 77-гадовы Карымаў не можа назваць пераемніка. У выпадку яго смерці і палітычнага хаосу магчымы варыянт, калі Таджыкістан паспрабуе вярнуць сабе Самарканд і Бухару, якія лічыць сваімі гістарычнымі тэрыторыямі?***

— У свой час ПІАТ разам з талібамі, сапраўды, рыхтавала такі паход. Рахмон таксама актыўна падтрымлівае антыўзбекскія настроі. Напрыклад, у таджыкскіх чайханах забаранілі паказваць узбекскія серыялы. У Ташкенце час ад часу ловяць таджыкскіх «агентаў». На ўзбекскай мяжы ў таджыкаў узбекскага паходжання ёсць прыярытэт — іх прапускаюць без чаргі. Аднак, думаю, што тактыкай дробных уколаў усё і абмяжуецца. Самі ўзбекскія таджыкі будуць супраць «вызвалення». Недзе напрыканцы 1990-х гадоў яны публічна заклікалі Душанбэ не распальваць істэрыку вакол Самарканда і Бухары, паколькі ў выніку ўзбекскія ўлады пачынаюць скарачаць колькасць таджыкскіх школ. Увогуле, узровень жыцця ва Узбекістане вышэй, і наўрад ці мясцовыя таджыкі пагодзяцца абмяняць яго на перспектыву вяртання ў склад Таджыкістану.

***— Анексія Крыму стала нагодай для расіян казаць пра тое, што межы паміж краінамі былога СССР даставткова штучныя. Ці кажуць пра гэта ў Цэнтральнай Азіі?***

— Усе ведаюць, што цяперашнія межы краін Цэнтральнай Азіі былі намаляваны ў 1920–1930-я гады ў Маскве, і часам не зразумела, па якім прынцыпе. Камуністы казалі, што за аснову ўзяты вынікі перапісу насельніцтва па графе «нацыянальнасць». Аднак, як вядома, гэта былі вельмі спрэчныя перапісы. Так, чамусьці, у выніку аднаго з першых перапісаў не аказалася таджыкаў. Аднак наўрад ці нехта сапраўды захоча перагляду тых межаў. У тым ліку таму, што эліты залежаць ад замежных цэнтраў, якія качаюць адсюль карысныя выкапні і зацікаўленыя ў стабільных пастаўках. Перш за ўсё, гэта Масква і Кітай. Таму змяніць геапалітычны парадак у рэгіёне можа выключна з'яўленне моцнай ісламскай сілы.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Беларусь апынулася ў тым жа становішчы, што і Казахстан, і па тых жа чынніках: голад не цётка, ён не дазваляе быць разборлівым як апошняму бамжу, так і кіраўніку дзяржавы. У сувязі з гэтым няма сэнсу звяртаць увагу на заявы як беларускага, так і казахстанскага прэзідэнтаў пра тое, што трэба тое ўлічыць ці гэта паправіць. Відавочна, што галоўнага — іх згоды на стварэнне ЕАЭС — Пуцін дамогся, а ўсё астатняе для яго не прынцыпова, і таму перададзена на разгляд расійскай бюракратычнай машыны.

**«Трэнд» (Казахстан)**

Намёк Лукашэнкі зразумелы: за дзесяць гадоў шмат што можа адбыцца. Напрыклад, Беларусь можа збліізіцца з Захадам у рамках Усходняга партнёрства, куды яна фармальна ўваходзіць. Выгандлёўваючы ў Расіі прэферэнцыі, Лукашэнка з 2010 года не раз казаў, што яго краіна не будзе больш «ляцець на адным крыле», маючы на ўвазе змену замежнапалітычнай арыентацыі з прарасійскай на шматвектарную. Праўда, адносіны з ЕС у кіраўніцтва рэспублікі ўсё яшчэ вельмі халодныя: супраць прэзідэнта, яго асяроддзя і найбольш важных кампаній краіны даўно дзейнічаюць санкцыі, прычым значна больш жорсткія, чым супраць Расіі. Але Лукашэнка, калі меркаваць па яго пostмайданаўскіх заявах, разлічвае, што на фоне падзей на Украіне Захад пойдзе на змякчэнне адносін з Мінскам у піку Маскве.

**«Росбалт» (Расія)**

Умяне няма прагнозаў (адносна беларускага Майдану), адзінае, што я магу сказаць — я спадзяюся, што так ці інакш, беларусы змогуць абраць сваю будучыню без асцярог апынуцца ў турме за свой выбар. Мы ясна далі зразумець гэта кіраўніцтву Беларусі, роўна як далі зразумець і тое, што мы адкрытыя для бліжэйшых адносін у будучыні. Мы не жадаем, каб Беларусь стала аб'ектам ціску з боку Расіі, мы жадаем, каб яна засталася незалежнай, каб у яе было сваё месца ў Еўропе, каб у беларусаў была магчымасць выбару. Калі ён (Лукашэнка) захоча размаўляць з намі пра пытанні, якія нас турбуюць на працягу шматлікіх гадоў, то мы гатовыя».

**З інтэрв'ю намесніка дзяржсакратара ЗША выданню «Delfi» (Літва)**

Чаму б цяпер не «перавярнуць дошку» і не зрабіць так, каб Лукашэнка таксама адказваў за дээскалацыю ўкраінскага канфлікту, а не спрабаваў выгандлёўваць дадатковыя бонусы на яго чарговых усплёсках? Афіцыйнае беларускае пасрэдніцтва паміж Кіевам і паўднёва-ўсходнімі рэгіёнамі Украіны зняло б з Расіі абвінавачванні ў імперскіх амбіцыях і імкненні выклапатаць пасрэдніцка-міратворчы мандат, каб адсекчы частку суседняй краіны. З іншага боку, Беларусь — відавочна, не Захад, Лукашэнка не западозрыш у дзеяннях па ўказцы Вашынгтона. Затое, глядзіш, разбараняючы і раззбройваючы «правасекаў» і «апалчэнцаў», ён і сам стане прыхільнікам федэралізацыі Украіны. Усё гэта, вядома, не здыме з повзы дня пытанне пра беларускія нафтавыя выключэнні. Але за спакойную і пазаблокавую Украіну і, як следства, нармалізацыю адносін Расіі з Захадам, напэўна, можна заплаціць $30 мільярдаў.

**«Известия» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРКМЕНІЯ. Прыйдзецца зноў плаціць за бензін



З 1 ліпеня 2014 года ў Туркменіі адмяняецца норма бясплатнага забеспячэння ўсімі відамі аўтамабільнага паліва грамадзян Туркменістана, якія валодаюць легкавымі аўтамабілямі і матацыкламі. Падобная мера, згодна з пастановай, прынятая ў мэтах «пастпальнага развіцця нацыянальнай эканомікі, дасягненні рацыянальнага выкарыстання нафтапрадуктаў і ўпарадкавання іх рэалізацыі на ўнутраным рынку». Раней на працягу амаль шасці гадоў дзяржава, згодна з Праграмай прэзідэнта Туркменістана па дзяржаўнай падтрымцы насельніцтва, вылучала ўладальнікам транспартных сродкаў бясплатны ліміт паліва. Тагачасны лідар краіны Сапармурат Ніязаў распарадзіўся бясплатна забяспечыць грамадзян таварамі першай неабходнасці паводле ўсталяваных нормы. Бензін выдаваўся ўладальнікам легкавых аўтамабіляў агульнай масай да 3,5 тон штомесяц па 120 літраў (2400 літраў у год), уладальнікам матацыклаў — 40 літраў у месяц. Спецыяльныя талоны на бясплатны бензін размяркоўваліся ў краіне два разы на год. Цяперашні кіраўнік дзяржавы Бердымухамедаў пасля прыходу да ўлады абяцаў захаваць бязвыплатнае карыстанне газам, электрычнасцю, вадой і соллю аж да 2030 года. Але за аўтамабільнае паліва давядзецца цяпер плаціць. Праўда, бензін ў краіне ўсё роўна застаецца вельмі танным у параўнанні з беларускімі коштамі: у пераводзе на нашы грошы літр туркменскага бензіну каштуе каля 2000 рублёў за літр.

**Паводле туркменскай прэсы**

### РАСІЯ. Створаны татарскі моўны патруль

Сусветны форум татарскай моладзі сфармаваў у Казані групу, задача якой — пошук і выяўленне арганізацый, гандлёвых цэнтраў, вытворцаў, якія не ўжываюць у сваёй дзейнасці татарскую мову, тым самым парушаючы Закон «Аб дзяржаўных мовах Рэспублікі Татарстан». Больш за 50 актывістаў, разбіўшыся на групы па сем чалавек і назваўшы сябе «татарскімі патрулямі», перыядычна шукаюць парушальнікаў моўнага кодэксу у цэнтры горада. Выявіўшы прадпрыемствы, персанал якіх не ведае татарскай мовы, ветліва паказваюць на недагляд. Адначасова па ходзе рэйда «татарскія патрулі» павінны былі шукаць і фатаграфаваць надпісы на шыльдах, дарожных указальніках і рэкламных банэрах, напісаных з граматычнымі памылкамі. Цікава, што рускамоўная грамадскасць Казані ўспрыняла ініцыятыву нацыяналістаў на ўра. Чамусьці яны лічаць яе жывым доказам правалу палітыкі папулярызацыі татарскай мовы і культуры. Інакш бы, мабыць, не ствараліся моўныя патрулі.

**Паводле расійскай прэсы**

### КІТАЙ. Пекін рыхтуе пераварот у Паўночнай Карэі

Калі верыць брытанскай прэсе, кітайскія спецслужбы распрацавалі план правядзення антыўрадавай рэвалюцыі ў Пхеньяне. Калі верыць журналістам, паводле схемы, усё цяперашняе кіраўніцтва КНДР будзе ліквідавана або выкрадзена і вывезена ў Кітай. Гэта, быццам, дазволіць паралізаваць палітычнае кіраўніцтва Паўночнай Карэі і не дапусціць мабілізацыі арміі, а таксама атамнага комплексу, які мае Пхеньян. Адначасова магчыма ўжыванне замежных вайсковых частак для барацьбы з анархіяй. У якасці доказу наяўнасці такога плану журналісты звяртаюць увагу на пачатак будаўніцтва на кітайска-карэйскай мяжы велізарнага канцэнтрацыйнага лагеру. На іх думку, падобная ўстанова будзе вельмі патрэбная Кітаю, калі з КНДР пачнецца рух бежанцаў. Калі верыць тым жа журналістам, Вашынгтон у курсе планаў Пекіна і даў згоду на іх рэалізацыю. Амерыку, быццам, асабліва не цікавіць тое, што новы рэжым у Пхеньяне можа быць цалкам пракітайскім. Для Белага дому і яго саюзнікаў у рэгіёне цяпер галоўнае — стварэнне больш стабільнай сістэмы бяспекі. Тыя ж рэзоны для складання канспіратыўных планаў супраць ураду ў Пхеньяне мае і Пекін, які баіцца, што сур'ёзны канфлікт КНДР з Захадам можа так ці інакш закрануць тэрыторыю Кітаю.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Біблія на вялікім экране

*Алег НОВІКАЎ*

**Выхад на экраны фільму «Ной» выклікаў інтарэс да гісторыі спроб экранізацыі Бібліі, у тым ліку да таго, як такія экранізацыі адлюстроўвалі калектыўныя настроі або стваралі іх.**



Гісторыя пра Ноя, які атрымаў ад Бога ўказанне пабудаваць каўчэг, у якім ён і яго сям'я, а таксама ўсе жывёлы планеты змаглі б перажыць Сусветны патоп, сапраўды, не прахадная. Пра гэта лепш за ўсё сведчыць рэакцыя лідараў розных канфесій. Так, Джасцін Уілбі (Justin Welby), архібіскуп Кентэрберыйскі і лідар сусветнай Англіканскай царквы, назваў фільм «Ной» «цікавай ежай для разважанняў». А актора Расэла Кроу нават запрасілі ў рэзідэнцыю архібіскупа, каб паразмаўляць аб праблемах веры. Заклікала вернікаў наведаць кінатэатры, дзе паказваюць «Ной» Амерыканскае Біблейскае таварыства. Запісаліся ў фанаты «Ноя» і вельмі ўплывовыя ў ЗША пратэстанцкія радыёстанцыі. Ёсць пазітыўныя ацэнкі з боку шэрагу яўрэйскіх равінаў.

Аднак паралельна ўзнікла і вялікая армада крытыкаў карціны. Напрыклад, не задаволеныя крэцыяністы — прадстаўнікі тэорыі, якія лічаць асноўныя формы арганічнага свету (жыццё), чалавецтва, планету Зямля, а таксама сусвет у цэлым, непасрэдна створаныя Творцам або Богам. На іх думку, рэжысёр мінімізаваў ролю Бога ў параўнанні з тэкстам Бібліі. Як і трэба было чакаць, Галівуд абвінавацілі ў тым, што ён перетварыў сакральную біблейскую сагу ў відовішча. З гэтым, дарэчы, згодныя шматлікія крытыкі. «Творчае вырашэнне вылілася ў відовішча, цяжкае для вачэй і якое пагражае псіхіцы. Рэжысёр Дарэн Аранофскі пускае гледача ў свой свет, поўны хутчэй магіі, чым хрысціянства», — гаворыцца ў адной з рэцэнзій.

Найбольш гучна пратэстуюць супраць «Ноя» ў ісламскім свеце. Пракат карціны забаронены ў Пакістане, Бахрэйне, Катары, ААЭ, Малайзіі, Інданезіі, на Блізкім Усходзе і ў краінах Паўночнай Афрыкі, паколькі змест фільму, быццам, супярэчаць ісламу. Галоўная праблема — на экране выяўленыя прарокі, што ў мусульманскай традыцыі — катэгарычнае табу.

Як і трэба было чакаць, тынейджарам кіно падалося занадта нудным. На моладзевых інтэрнэт-форумах дамінуюць пасты наступнага зместу: «Толькі што паглядзелі фільм «Ной» у 3D, даўно не бачылі такога адстою... Акторы занудна гуляюць, проста выціскаюць з сябе трагічны драматызм, і ўсё з прэтэнзіяй на эпічнае прачытанне. Сюжэтная лінія блытаная, адчуваецца, што першакрыніца апынулася вельмі цяжкай для экранізацыі».

**«Ной» — гэта чысты бізнэс. Кіношнікі папросту някепска адпрацавалі ганарар прадзюсараў, якія вырашылі, што ў час крызісу тэма выратавання і Бога абавязкова прыцягне публіку ў кінатэатр.**

Інтарэс кіношнікаў да Бібліі ніколі не быў выпадковым. Па сутнасці, запыт на рэлігійныя фільмы быў прадыктаваны праблемамі ў грамадстве. Прычым не заўсёды цікавасцю да рэлігіі. Так, моду на біблейскія фільмы ў Галівудзе ў 1950-я гады шмат хто звязвае з палітычным фонам. Культурную палітыку ў Штатах фармавалі кансерватары, якія дабіліся таго, каб Галівуд выпускаў карціны, жорстка трымаючыся славутага Кода Хейса, які змяшчаў наступныя параграфы: «Карціны не павінны падрываць маральныя асновы гледачоў. На экранах варта прадстаўляць маральна правільныя мадэлі жыцця. Нельга здзекавацца з законаў, пісаных або няпісаных. Недапушчальна схіляць сімпатыі гледачоў на бок злачынцаў і грэшнікаў».

Быццам, у такой сітуацыі, каб абысці бар'еры маральнай цэнзуры, прадзюсеры пачалі ўкладаць сродкі ў вытворчасць біблейскіх стужак. Цэнзары не маглі прыдрацца да наяўнасці на экранах супярэчлівых злодзеяў і сексапільных прыгажунь, паколькі яны былі персанажамі Бібліі.

Увогуле, піянерамі біблейскага кінематографу з'яўляюцца французы. У 1897 годзе французская кінакампанія «Pathè», якая рабіла першыя крокі, выпусціла стужку «Давід і Галіяф». У 1902 годзе пабачыла свет карціна «Іосіф, якога прадаюць браты». Аднак прарыўной карцінай з біблейскім матывам стала «Quo Vadis?». Нягледзячы на тое, што фільм быў без гуку, публіка дзве гадзіны (!) не магла адарвацца ад экрану.

У 1920-я гады біблейскія фільмы пертвараюцца ў сталы жанр. Усё дзякуючы амерыканскаму рэжысёру Сесілу ДэМіл. Ён зняў трылогію, у якую ўваходзяць фільмы «Дзесяць запаведзяў», «Цар цароў» «Знак крыжа». Гэта былі відовішчныя фільмы з вялікімі батальнымі сцэнамі, багатымі інтэр'ерамі ўсходніх палацаў. Ужываліся самыя перадавыя кінатэхналогіі таго часу. Напрыклад, захапленне публікі выклікала сцэна, калі вада расступаецца, ствараючы калідор для Маісея і яго спадарожнікаў.

У 1950-я гады пабачыў свет і славуты «Бен Гур». Па агульнай колькасці оскараўскіх узнагарод з фільмам «Бен Гур» могуць параўнацца толькі дзве карціны: «Тытанік» «Уладар пярсцёнкаў: Вяртанне караля» (2003).

У 1960-я гады Біблія, з аднаго боку, адаптуецца да фармату серыялаў, а з другога — выклікае інтарэс у камуністаў. Найбольш іх цікавіў вобраз Хрыста. У 1964 годзе выходзіць скандальнае «Евангелле ад Матфея», дзе апісвацца жыццё Ісуса з марксісцкага пункту гледжання. Спробы рабіць радыкальныя кінатрактоўкі «Евангелля» працягваліся і пазней. Дастаткова ўгадаць «Ісус Хрыстос Суперзорка» (1973). З'явіліся і першыя пароды на Біблію. Найбольш паспяховай была праца славутай брытанскай сатырычнай групы «Monty Python». Напэўна, апошнім гучным фільмам на біблейскую тэматыку былі «Страсці Хрыстовыя» (2004). Гістарычная драма, знятая Мэлам Гібсанам, якая распавядае пра падзеі, што папярэднічалі распяццю Ісуса Хрыста, выклікала шмат дэбатаў. У тым ліку спрачаліся, нашто Гібсану было так дэталёва паказваць пакуты Хрыста, дэманстраваць яго раны.

І вось Біблія ў выглядзе фільма «Ной» зноў на вялікім экране. Калі меркаваць па рэцэнзіях, большасць пасля выхаду з кіназалы мяркуюць, што «Ной» — гэта чысты бізнэс. Быццам, кіношнікі папросту някепска адпрацавалі ганарар прадзюсараў, якія вырашылі, што ў час крызісу тэма выратавання і Бога абавязкова прыцягне публіку ў кінатэатр. Іншыя лічаць, што карціна ўсё ж здольная выклікаць інтарэс да рэлігіі. Самая арыгінальная думка на гэты конт у амерыканскіх кансерватараў. Яны лічаць, што ў фільме празмерна прысутнічае тэма любові да братоў меншых. Пасля кінасеансу з'яўляецца жаданне не чытаць Біблію, а запісацца ў «Грынпіс» або яшчэ больш радыкальныя экстрэмісцкія экалагічныя арганізацыі.

# Што абіраюць еўрапейцы

Алег НОВІКАЎ



**Беручы пад увагу такія глабальныя падзеі, як эканамічная рэцэсія і новая халодная вайна з Расіяй, выбары 25 мая ў Еўрапарламент можна лічыць гістарычна важнымі для будучыні Еўрапраекту. Прапануем кароткі аналіз праграм вядучых палітычных сіл ЕС.**

Галоўная сенсацыя выбараў вядомая ўжо зараз. Мяркуючы па ўсім, нічога не перашкодзіць Партыі незалежнасці Аб'яднанага Каралеўства (UKIP) — галоўнай палітычнай сіле мясцовых еўраскептыкаў — атрымаць большасць на выбарах (зараз за іх плануе галасаваць 31 працэнт). Тым самым, упершыню за ўсю гісторыю Брытаніі лаўры пераможцаў дастануцца не толькі партыі, якая не мае парламенцкага прадстаўніцтва на радзіме, аднак у дадатак мае рэнаме праварадыкальнай структуры. Гарантаваны і правал кансерватараў, за якіх гатовыя аддаць галасы толькі 19 працэнтаў брытанцаў.

Нешта падобнае можа адбыцца і па той бок Ла-Манша, дзе Нацыянальны Фронт Марын Ле Пэн з 24 працэнтамі здольны выйграць гонку. Праўда, тут перамога не выглядае стоадсоткавай. У сацыялістаў і кансерватараў — па 22 працэнты.

Усё ідзе да таго, што ў Еўрапарламенце будзе моцная фракцыя правых, аб'яднаных пад дахам Еўрапейскага альянсу за свабоду, які быў створаны чатыры гады таму. Здавалася, сфармаваны партыямі еўраскептыкаў Альянс за свабоду павінен дамагацца самаліквідацыі Еўрасаюзу. Нічога падобнага. Паводле праграмных пастулатаў Альянсу за Свабоду, інстытуты ЕС павінны проста адмовіцца ад прынцыпаў Лісабонскай канстытуцыі і пераразмеркаваць уладныя прэрагатывы на карысць нацыянальных урадаў.

Паводле аўтараў маніфесту Альянсу за свабоду, праз рэферэндумы павінны вырашацца агульнаеўрапейскія пытанні, накшталт прыёму новых краін-сяброў або фіскальныя паўнамоцтвы Брусэля. Ультраправыя жадаюць пакінуць за краінамі права ў любы момант выходзіць з зоны еўра і вяртацца да сваіх нацыянальных валют. Суб'екты ЕС таксама павінны мець права на тое, каб праводзіць асабістую эміграцыйную і візавую палітыку. Як і трэба было чакаць, тэме барацьбы з ісламскай пагрозай адводзіцца асобны пункт праграмы Альянсу за свабоду. Альянс бачыць у ісламе выклік культурным каштоўнасцям еўрапейцаў і лічыць патрэбным падтрымліваць інстытуты царквы і сям'і, каб не дапусціць эрозіі еўрапейскай культурнай традыцыі.

Процілеглую праграму прапануюць сваім выбаршчыкам эколагі, аб'яднаныя пад дахам Еўрапейскай партыі зялёных (ЕПЗ). У прыватнасці, Еўразялёныя патрабуюць даць Еўрапараламенту больш правоў, каб ён мог адыгрываць ключавую ролю ў вырашэнні еўрапейскіх крызісаў і ў ажыццяўленні палітыкі ў розных сферах. ЕПЗ таксама прапануе нацыянальным парламентам больш актыўна ўдзельнічаць у працэсах еўрапейскага будаўніцтва. Выступаючы за рэфармаванне адзінай Еўропы, ЕПЗ хоча склікаць новы канвент з удзелам прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці, каб выпрацаваць на ім новую дамову, якая «здольная якасна прасунуць наперад інтэграцыйныя працэсы».

У платформе ЕЗП падкрэсліваецца, што дзейнасць усіх інстытутаў ЕС — гэтак жа, як пэўная палітыка ў розных галінах, павінна насіць больш празрысты і адказны характар. Еўрапейская партыя зялёных належыць да тых палітычных сіл ЕС, якія арыентаваныя на паўсядзённую абарону правоў імігрантаў. У іх платформе адзначаецца, што «мігранты не павінны разглядацца як грамадзяне другога гатунку».

Важнае месца адводзіцца ў зялёнай платформе і сацыяльнай праблематыцы. Еўразялёныя патрабуюць узмацнення ў ЕС сацыяльнай справядлівасці, што мае на ўвазе, у прыватнасці, доступ грамадзян да якаснай адукацыі, да доўгачасовых працоўных месцаў, роўных сацыяльных правоў па-за залежнасцю ад паходжання. Ну і, натуральна, хапае ў іх праграме экалагічных патрабаванняў: цалкам адмовіцца ад вугальнай прамысловасці да 2030 года, а да 2050-га ўсяму Еўрасаюзу перайсці да выкарыстання толькі ўзнаўляльных крыніц энергіі — сонечнай і ветравой. Таксама ў праграмных дакументах зялёных робіцца акцэнт на тым, што ЕС мае патрэбу ў «энергетычнай незалежнасці». Застаецца сказаць, што зялёныя — самая праеўрапейская партыя, якая патрабуе працягваць працэс пашырэння ЕС па ўсіх напрамках.

Дарэчы, зялёныя — першая партыя ў ЕС, якая абрала лідараў спісу праз праймерыз, у якім мог удзельнічаць любы грамадзянін Еўрасаюзу, старэйшы за 16 гадоў. У выніку перамаглі Жазэ Бавэ і Сара Келер. Дзякуючы свайму маладзеваму задору Сара прываблівa выглядае на фоне праціўнікаў — больш салідных і сталых палітыкаў, вельмі дасведчаных, аднак шмат каму незразумелых.

Паводле падобнага фармату дзейнічаюць і піяршчыкі Еўрапейскай левай партыі. Яны паставілі ў топ выбарчага спісу Алексіса Цыпраса, маладога 40-гадовага грэчаскага палітыка, чыя партыя СІРІЗА — кааліцыя малых левых і экалагічных груповак, за гады крызісу стала другой партыяй Грэцыі.

Праграма Еўрапейскай левай партыі, як трэба было чакаць, перакладае ўсю адказнасць за крызіс на існуючую ў Еўропе мадэль капіталізму, і ў прыватнасці на мадэль фінансавай палітыкі — «жорсткую эканомію». Таму ў выпадку перамогі на выбарах левыя адразу забароняць па ўсяму ЕС палітыку рэзкага скарачэння сацыяльных датацый, замарожвання заробкаў і пенсій. Еўрапейская левая партыя, як і ўльтраправыя, выступае за большую ролю грамадзян у прыняцці рашэнняў агульнаеўрапейскага маштабу праз сістэму рэферэндумаў. У праграме няма ні слова пра стаўленне да суседніх з ЕС краін, затое левыя лічаць, што ЕС павінна прыпыніць любое вайсковае супрацоўніцтва з замежнымі краінамі.

Аднак больш увагі надаецца правам працоўных на прадпрыемствах. Прафсаюзы, лічаць левыя, павінны мець права блакаваць супярэчлівыя, на іх думку, рашэнні дырэкцыі і ўладальніка. Пад поўны кантроль грамадства павінен перайсці і банкаўскі сектар. У адрозненне ад правых, левыя лічаць, што ніякага адзінага культурнага коду ў Еўропе не існуе. Наадварот, мае месца культурная разнастайнасць, і яе трэба падтрымліваць. Увогуле, трэба прызнаць, што праграма левых не ставіць пад пытанне неабходнасць еўрапейскай інтэграцыі. Фокус робіцца на тым, што цяперашняя формула ЕС у стане крызісу, і яго эканамічная палітыка павінна быць больш дэмакратычнай і сацыяльнай.

У наступным нумары мы прааналізуем праграмы іншых трох вядучых еўрапейскіх гульцоў — Партыі лібералаў, Партыі сацыялістаў і Народнай партыі. Дзве апошнія традыцыйна маюць большасць у Еўрапарламенце.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ігар Каламойскі



Алігарх і губернатар Днепрапятроўскай вобласці абвясціў аб правядзенні 11–12 мая ў Данецкай вобласці рэферэндуму аб далучэнні гэтага рэгіёну да Днепрапятроўскага краю. Адначасова ў гэты час у Днепрапятроўску пройдзе кангрэс абшчынаў Усходняга Поўдня, які, мяркуючы па ўсім, можа дадаць салідарнасці плебісыту. Незвычайная ініцыятыва Каламойскага парушае канстытуцыю, якая забараняе мясцовыя рэферэндумы, і тым больш змены адміністрацыйных кардонаў. Акрамя таго, галоўныя аргументы за інкарпарацыю Данбасу ў склад Днепрапятроўшчыны выглядаюць малаверагоднымі. Каламойскі абяцае рэгіёну росквіт, хаця ўсе ведаюць, што нават Масква сумняваецца ў тым, што пракорміць датацыйны Данбас у выпадку яго акупацыі. Нарэшце, паміж дняпроўскімі і данецкімі нават на побытавым узроўні даўно трывае спаборніцтва. Адным словам, ідэя рэферэндуму правальная, не кажучы пра тое, што тэхнічна яе цяжка рэалізаваць. З улікам усяго сказанага, хутчэй за ўсё, акцыя выконвае выключна прапагандысцкія задачы. Напрыклад, пазбавіць легітымнасці прызначаны на тыя ж тэрміны рэферэндумы аб суверэнітэце Данецкай і Луганскай абласцей.

### Джэры Адамс



Легендарны змагар за правы ірландцаў у Паўночнай Ірландыі, лідар партыі «Шын Фейн», якая доўгі час была палітычнай шыльдай мілітарнай арганізацыі Ірландская Рэспубліканская Армія (IRA), трапіў у непрыемную гісторыю. Яго абвінавацілі ва ўдзеле ў выкраданні і забойстве Джын МакКонвіл. Гісторыя здарылася ў далёкім 1972 годзе. Ірландскія патрыёты палічылі, што МакКонвіл шпіёніць на карысць брытанскіх спецслужбаў. Падазраваную скралі на вачах яе дзяцей, забілі, а труп так добра схавалі, што цела знайшлі толькі ў 2003 годзе. Яшчэ праз дзесяць год пачалі шукаць забойцаў. І тут дачка Джын нечакана абвінавацiла Джэры Адамса ў забойстве маці. Прычым, відаць, у яе ёсць сапраўдныя доказы. Інакш бы Адамса, нягледзячы на яго статус дэпутата парламента, не затрымалі. Праўда, пасля палітыка вырашылі адпусціць да заканчэнне следства. Па словах Адамса, ён ніякім чынам не датычны да забойства Джын, і ўвогуле лічыць, што гэту справу замовілі, каб скампраметаваць «Шын Фейн» напярэдадні выбараў у Еўрапарламент. Прэса, блізкая да пратэстанцкіх партый, сапраўды, пачала кампанію супраць Адамса. У тым ліку яна прапанавала сенсацыйную версію. Не так даўно стала вядома, што самыя блізкія сябры Адамса тайна працавалі на Лондан. Магчыма, быў завербаваны і сам Джэры. Каб адцягнуць падазрэнне ад сябе, ён і яго сябры абвінавацілі ва ўсім няшчасную Джын, якую IRA памылкова і прыбрала.

### Абдэль Фатах ас-Сісі



Кандыдат у прэзідэнты Егіпта, былы міністр абароны ў інтэрв'ю двум мясцовым прыватным тэлеканалам заявіў, што Рух «Братоў-мусульман» спыніць сваё існаванне ў Егіпце. Ён адзначыў, што на выбары яго прымусіла пайсці «хваля тэрарызму, што захліснула Егіпет пасля адхілення ад улады экс-прэзідэнта Мухамеда Мурсі». «Так, «Браты-мусульмане» знікнуць, калі я стану прэзідэнтам. Па словах ас-Сісі, ідэалогія «Братоў-мусульман» сябе зжыла і ўжо не вернецца.

«Так, «Браты-мусульмане» знікнуць, калі я стану прэзідэнтам. Гэта не я прымусію іх сысці, а народ Егіпта. Егіпцяне двойчы сказалі «не» праўленню «Братоў-мусульман». Яны сказалі «не» 30 чэрвеня 2013 года ў ходзе масавых акцый пратэсту, і яны кажуць «не» зараз».

На днях крымінальны суд Каіра прысудзіў каля сотні прыхільнікаў «Братоў-мусульман» да працяглых тэрмінаў турэмнага зняволення. А раней у правінцыі Эль-Міньяа да смяротнай кары былі прысуджаны амаль 700 прыхільнікаў ісламістаў.

Прэзідэнцкія выбары ў Егіпце пройдуць 26 і 27 траўня.

# Праблема 1514

Юрка КОПЦІК

**Тое, што пісалася, пішацца і будзе пісацца ў СМІ пра Аршанскую баталію, 500-годдзе якой набліжаецца, мы больш-менш ведаем. Там зашмат пафасу, эмоцый і не ў апошнюю чаргу палітыкі. А вось што на сёння мае на гэты конт сказаць гістарычная навука?**

## Дзе гэта было?

Найактуальнае на сёння пытанне. Самае цікавае, што першымі, хто падступіўся да вывучэння Аршанскай бітвы, былі расійскія даследчыкі XIX стагоддзя. Ужо ў першых расійскіх выданнях даведачна-энцыклапедычнага характару сярэдзіны XIX стагоддзя (напрыклад, «Военный энциклопедический лексикон») мы сустракаем самае падрабязнае апісанне Аршанскай бітвы Івана Барычаўскага, аж да імёнаў галоўных дзеючых асобаў. Без эмоцый і пафасу. Але плану бітвы яшчэ няма.

У гэты ж час у музеі Сілезскіх Старажытнасцяў у Брэслаў даследчыкі звярнулі ўвагу на невядомую батальную карціну на дошках. Карцінай зацікавіліся нямецкія даследчыкі Каро і Шульц, угледзеўшы ў ёй руку майстра нямецкай школы. Спачатку думалі, што яна паказвае нейкую сярэднявечную бітву палякаў з татарамі, але калі разгледзелі герб князя Астрожскага на сцяжку дзіды вершніка, стала зразумела, што гэта за бітва.

Шэдэўр батальнага жывапісу XVI стагоддзя паходзіў з Кракава, дзе, праўдападобна, захоўваўся ў перасціле галерэі аднаго з манастыроў. Многія даследчыкі сыходзяцца на тым, што невядомы аўтар карціны быў відавочцам бітвы. Атрымаўшы ў свае рукі такі выдатны дакумент, польская мастацтвазнаўчая і гістарычная грамада надоўга засяродзілася на вывучэнні карціны «Бітва пад Оршай». Дарэчы, назва ўмоўная: мы не ведаем, як у сапраўднасці невядомы майстра назваў свой твор. Вывучэнне гэтае працягваецца і сёння.

Навукоўцы спрачаюцца аб аўтарстве карціны, часе стварэння, нават аб тым, хто ў каго «спісаў» выяву вялікай гарматы на пярэднім плане карціны — невядомы аўтар у Альбрэхта Дзюрэра ці наадварот? Прафесар Кракаўскай Акадэміі мастацтваў Здзіслаў Жыгульскі нарэшце зрабіў грунтоўны аналіз-разбіўку большасці сцэн карціны з вычляненнем асобных фігур, узораў баявых нагалоўяў, рыштунку і зброі.

Наратыўная (хронікі і летапісы) і тым больш дакументальна-архіўная база падзеі вывучаліся ў значна меншай ступені. Нарэшце ў 1949 годзе Станіслаў Хербст і Міхал Валіцкі апублікавалі сваё даследаванне «Карціна бітвы пад Оршай. Дакумент гісторыі мастацтва і вайсковай справы XVI ст.» У ім упершыню ў польскай гістарыяграфіі аўтары змясцілі сітуацыйны план бітвы пад Оршай. Згодна яму, бітва адбылася на левым беразе Дняпра ў 3–4 кіламетрах на ўсход ад Оршы на абшарах паміж сённяшнімі вёскамі Пашына і Стахоўка. З таго часу ўсе польскія даследчыкі праблемы 1514 нязменна прытрымліваліся гэтага плана.

Хутчэй за ўсё, Хербст і Валіцкі тады яшчэ не ведалі (няма ніводнага згадвання), што расійская гістарыяграфія ўжо сваіх распрацоўках задоўга да іх выйшла на сваю версію лакалізацыі бітвы: у 1914-м у «Военной энциклопедии» быў апублікаваны план Аршанскай бітвы 1514 года, які абсалютна не супадае з планам Хербста і Валіцкага. Паводле расійскіх гісторыкаў, бітва адбылася ў 14–15 кіламетрах на ўсход ад Оршы на правым беразе левага прытоку Дняпра рэчкі Крапіўны пры самым яе вусці на палях перад сённяшняй вёскай Гацькаўшчына. І да самага апошняга часу расійскія гісторыкі ў сваіх публікацыях па ваеннай гісторыі Расіі нязменна трымаліся гэтага плану.




**План Аршанскай бітвы з «Ваеннай энцыклапедыі», (т. XVII, Петраград, 1914). Аўтар тут сумясціў у адным плане тры розначасовыя фазы бітвы**




**План Анатоля Грыцкевіча практычна тоесны плану Хербста і Валіцкага**

**Відавочна, што рэжым ніякім чынам 500-годдзе бітвы адзначаць не мае намераў. Апублікаваць жа сёння ў нас нейкія сур'ёзныя даследаванні па праблеме 1514 — гэта ўжо само па сабе сур'ёзная праблема**

Беларуская гістарычная навука савецкага часу старанна пазбягала навят простага ўзгадвання Аршанскай бітвы, або ў лепшым выпадку імкнулася давесці, што беларусы ў гэтай баталіі ўдзелу практычна не прымалі.

З прыходам суверэнітэту галоўным адмыслоўцам па праблеме 1514 у Беларусі стаў гісторык Анатоль Грыцкевіч. Менавіта яму ў сааўтарстве з Алегам Трусавым належыць першая айчынная публікацыя па нашай тэме ў часопісе «Мастацтва». Затым Грыцкевіч надрукаваў шэраг артыкулаў з планам бітвы ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», «Беларускай энцыклапедыі» і энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае». За аснову свайго плана ён узяў план Хербста і Валіцкага, разбіўшы яго на некалькі фаз бітвы.

Гісторык Міхась Чарняўскі ў 1993 годзе апублікаваў свой план бітвы ў часопісе «Маладосць», які хаця і выклікае пэўныя пытанні, але ў цэлым таксама ўпісваецца ў канцэпцыю плана польскай гістарыяграфіі.

Апошнім па часе з апублікаваных планаў Аршанскай бітвы можна назваць план расійскага гісторыка Аляксея Лобіна, змешчаны ў выдадзенай у 2011 годзе манаграфіі «Битва под Оршей 8 сентября 1514 года». Лобін — першы з гісторыкаў расійскай школы, які адмовіўся ад традыцыйнага для расійскай гістарыяграфіі плана размяшчэння бітвы на беразе Крапіўны. Некалькі змяніўшы вось размяшчэння войскаў, Лобін насамрэч далучыўся да ведамага нам погляду на лакалізацыю Аршанскай бітвы польскіх даследчыкаў.

Праблема палягае ў тым, што ні Лобін, ні іншыя даследчыкі хоць польскай, хоць расійскай школы не праводзілі адмысловых палявых доследаў на мяркуемым месцы бітвы, не рабілі прывязкі баталіі да тапаграфічных асаблівасцяў мясцовасці, не вывучалі мясцовую мікратапаніміку і не праводзілі апытанняў старажылаў сярод навакольнага насельніцтва на прадмет наяўнасці ці адсутнасці тут нейкіх даўніх міфаў і паданняў, а таксама знаходак, якія маглі б даць пэўныя падказкі даследаванням. Для параўнання: у 1960-х гадах дзеля лакалізацыі месца Лядовага пабоішча 1242 года комплексная экспедыцыя ў складзе гісторыкаў, археолагаў, тапографаў, тапаністаў і вадалазаў-аквалангістаў працавала тры (!) палявыя сезоны.

## Ніводнага фундаментальнага даследавання

На сённяшні дзень няма ніводнага фундаментальнага даследавання беларускіх гісторыкаў па гісторыі Аршанскай бітвы. У Інстытуце гісторыі НАН гэтай тэматыкі пазбягаюць дакладна гэтак жа, як і за савецкім часам. Прычына гэтаму ёсць — рэжым гранічна выразна выказаўся ў сваім стаўленні да праблемы 1514: у 2003 годзе з нетраў Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі прэзідэнта РБ выйшла работа М. Амбражэвіча «Оршанская битва 1514 г.: военно-исторический аспект». Даследаванне не столькі навуковага, колькі ідэалагічна-кан'юнктурнага характару, калі пад загадзя акрэсленыя высновы падбіраецца неабходная доказная база.

А высновы такія: гэта была братазабойчая бітва ў братазабойчай вайне, падпальшчыкамі якой выступілі Ватыкан і каралеўства Польскае. Падобныя глупствы прыдворныя гісторыкі дазвалялі сабе пісаць толькі ў змрочныя часы сталінізму. Відавочна, што рэжым ніякім чынам 500-годдзе бітвы адзначаць не мае намераў.

Ну, магчыма, па БТ арганізуюць адно-два пагромныя talk-show, дзе кампанія апалагетаў заходнерусізму ў гістарычнай навуцы будзе даводзіць ужо сфармуляваныя Амбражэвічам ісціны. Апублікаваць жа сёння ў нас нейкія сур'ёзныя даследаванні па праблеме 1514 — гэта ўжо само па сабе сур'ёзная праблема.

Аднак няма фундаментальных работ па нашай тэме і ў палякаў, і ў літоўцаў. Хаця не выключана, што нешта грунтоўнае яшчэ з'явіцца. Адзіная праца такога ўзроўню на сёння — гэта ўжо згаданая манаграфія расійскага даследчыка Аляксея Лобіна, таму больш падрабязна спынімся на ёй.

Аўтар у значнай ступені ўзняў якраз тую дакументальна-архіўную базу падзеі, якую амаль не краналі гісторыкі. Абапіраючыся ў асноўным на гэты корпус архіўных дакументаў, а не на наратыўныя крыніцы, Лобін падвяргае крытычнаму аналізу высновы сваіх папярэднікаў. Паводле сваіх падлікаў, ён у разы змяншае лічбы войскаў, якія ўдзельнічалі ў кампаніі 1514-га і ў самой бітве. Паводле Лобіна, пад Оршай у Астрожскага пад рукой было да 13 тысяч воінаў, у маскоўскіх ваяводаў Чаляднiна і Булгакава-Голіцы — 11–14 тысяч воінаў. Лічбы 30 тысяч (у Астрожскага) і 80 тысяч (у масквіцян) Лобін прыпісвае выключна «ягелонскай прапагандзе» канцылярыі вялікага князя літоўскага.

Аб стратах маскоўскага боку Лобін у манаграфіі нічога прама не гаворыць, палонных жа дзяцей баярскіх вызначае ў некалькі сотняў. Пазней, ужо пасля публікацыі сваёй працы, Лобін у адным інтэрв'ю СМІ, спасылаючыся на дакумент з таемнага кенігсбергскага архіва прускіх магістраў, гаворыць аб 2 000 забітых у Аршанскай бітве масквіцян. «І гэта многа», — дадае ён у заключэнне. Здаецца, без іроніі.

Высновы расійскі даследчык робіць такія: чыста тактычная перамога пад Оршай не дала літоўскаму боку вырашальнай перавагі ў вайне 1512–1522 гадоў, не змяніла балансу сіл бакоў, Смаленск застаўся ў руках Масквы, а ініцыятыва ў вайне па-ранейшаму засталася ў вялікага князя маскоўскага.

Праца грунтоўная, але, на жаль, таксама не свабодная ад палітычнай заангажаванасці. З якой, можна не сумнявацца, нашы прыдворныя апалагеты заходнерусізму паспрабуюць выцягнуць кан'юнктурны козыр. Але ж гэта была не апошняя бітва пад Оршай.

## Другая Аршанская бітва

У палеміцы з нагоды 500-годдзя Аршанскай бітвы і 150-годдзя паўстання Каліноўскага ў нас неяк забылiся пра яшчэ адзін юбілей. Гэта 450-годдзе Другой Аршанскай бітвы. Праз 50 гадоў пасля першай Аршанскай бітвы ў нешчаслівых для маскоўскіх заваёўнікаў мясцінах блізу Оршы іх зноў чакала няўдача.

Пасля паражэння пад Улай, дзе 23 студзеня 1564 года Радзівіл і Хадкевіч разбілі палацкае войска князя Шуйскага, на ўсход ад Дуброўны спынілася другое маскоўскае войска князя Сярэбранага (да 50 000), што ішло ад Вязьмы на злучэнне з Шуйскім.

Ёсць версія, што да старосты дубровенскага быў адмыслова пасланы ганец з лістом, дзе распавядалася пра перамогу над Шуйскім, з тым, каб яго перахапілі раз'езды масквіцян. Нібыта, так яно і сталася, і маскоўскае войска, устрывожанае весткай аб паражэнні Шуйскага, толькі пабачыўшы прапарцы на дзідах авангарду войска літоўскага — рот Філона Кміты і Юрыя Осціка, — кінулася ўцякаць, пакінуўшы непрыцелю ўвесь свой лагер з абозам. У палон патрапілі два дзясяткі масквіцян і татарскі мурза з войска Сярэбранага.

У гістарычную літаратуру гэтыя падзеі і ўвайшлі пад найменнем Другой Аршанскай бітвы. Вось гэтую перамогу з поўным правам можна назваць тактычнай, бо яна практычна не адбілася на ходзе Інфлянцкай вайны, але разам з ульскай перамогай некалькі збіла амбіцыі Івана IV пасля захопу ім Полацка. Таму і вартая нашай удзячнай памяці.


«Першыя прадвеснікі вясны. Пралескі»


«Нёман»

# Пралескі мастака з Пружаншчыны

Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**Станіслаў Жукоўскі асабліва любіў вясну. Не толькі таму, што зямля, апрытомненая ад зімовага сну, убіралася ў сваю красу. У вясне не было расчаравання і паразы. У вясне панавалі спадзеў і будучыня.**



Нарадзіўся Станіслаў Жукоўскі 13 траўня 1873 года ў арандаваным фальварку Старая Воля і быў трэцім дзіцём у бацькоў. Меншы за брата Баляслава на 11 гадоў, а за сястру Серафіму — на 4 гады, зваўся ў сям'і «матчыным сынком».

Сваё родавае гняздо — Ендрыхоўку на Пружаншчыне — Жукоўскія страцілі пасля паўстання Каліноўскага.

## Навучанне

Юльян Жукоўскі, бацька Стася, быў упэўнены, што сын атрымае прафесію практычную — лесніка ці агранома. Але той за адукацыяй скіраваўся ў Маскоўскую вучэльню жывапісу, дойлідства і ваяння. Каб стаць слухачом вучэльні, Стась мусіў пры падтрымцы свайго беластоцкага выкладчыка і сябра Сяргея Южаніна таемна пабольшыць узрост у дакументах.

Настаўнікамі яго ў розныя часы былі Ісак Левітан, Васіль Паленаў, Валянцін Сяроў, Канстанцін Каровін. Часцінка кожнага з іх засталася ва ўдзячным вучні, гэта зразумела. Але ўжо тады ён вызначыў свой шлях у мастацтве.

Сугучнымі Стасю былі лакальныя, вясновa-мажорныя настроі прыроды. Суразмернымі ягонай існасці сталіся някідкія краявіды, што атаясамліваліся ў душы са шчымлівым водсветам «роднага кута».

Яшчэ ў Беластоку ў 1890 і 1891 гадах Стась намаляваў у некалькіх эцюдах родны фальварак. Някідкі драўляны дамок з мураваным порцікам, з цэнтрам кампазіцыі ў выглядзе дзвюх калон абапал дзвярэй — сваёй архітэктурай нагадваў пра беларускія барочныя традыцыі мяжы XVIII—XIX стагоддзя. Пазней ён будзе неаднакроць вяртаецца да матыву роднага дома і ўвасобіць яго ў шмат якіх палотнах.

## Вандроўкі па жыцці

Потым было імклівае жыццё. Доўгачаканае «першае» набыццё яго твора ў 1896 годзе самім (!) Траццяковым. Гэта пазней яго работы будуць набываць самыя прэстыжныя зборы, а ён перватворыцца ў аднаго з самых папулярных майстроў. Пакуль — першыя выставы з «перасоўнікамі». Першы медаль у 1897-м. Шлюб з каляжанкай Аляксандрай Ігнацьевай. Званне класнага мастака — па заканчэнні вучэльні ў 1901 годзе.

У 1907-м ён уступіў у мастацкае аб'яднанне рэалістаў «Саюз рускіх мастакоў», і ў тым жа годзе атрымаў тытул акадэміка пейзажнага жывапісу, а неўзабаве адчыніў уласную двухгадовую мастацкую школу. Сярод вучняў школы, якая праіснавала амаль да кастрычніцкага перавароту, мы знойдзем такія імёны, як Уладзімір Маякоўскі, Ігнацій Нівінскі, Стэфан Дамарацкі.

У лютым 1917 года Станіслаў Жукоўскі ўвайшоў у аб'яднанне «Ізограф», што дэкларавала палітычны нейтралітэт мастака. Разам з тым, будучы сябрам Камісіі па ахове помнікаў мастацтва і даўніны пры Масавеце і Калегіі мастакоў пры Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі, аддана працаваў па ахове помнікаў.

Пасля першай персанальнай выставы ў 1920 годзе ў Вятцы, у 1921-м прайшла другая персанальная выстава ў Маскве, а ў 1922 — яго працы адправілі на выставу ў Берлін.

Мэтай мастака было не толькі назапашванне майстэрства, але і праверка сябе на здольнасць па-свойму ўбачыць, «адчуць» натуру. У творчых вандроўках па Сярэдняй Расіі, пры вывучэнні помнікаў даўніны, у якіх ён нібыта «вышукваў» родныя вобразы юнацтва. Дзе б ні быў, дзе б ні вандраваў, што б ні пісаў — ва ўсім увасабляў дух, «сонечнасць» і сувымернасць аб'екта з «радзімым кутом».

Ён не імкнуўся да рэтраспектыўнай, тэатралізаванай стылізацыі, уласцівай мірыскуснікам, хаця ўвесь час і быў апантаны «старасвецкай сядзібай», яе ўбранствам ды «інтэр'ерам». Польскія даследчыкі вызначаюць гэта як неарамантычны струмень беларускага і літоўскага мастацтва, які супрацьстаяў рускаму варыянту мадэрну.

У свет неарамантызму з яго свежым паветрам, глыбокім даляглядам і высокім небам «расчыніў вакно» Фердынанд Рушчыц.

## Узлёт

Зорка мастака з Пружаншчыны, што ўзышла на золку XX стагоддзя самабытна адухоўленым краявідам, пазней заззяла новымі фарбамі, адценнямі і нюансамі ў працах інтэр'ернага жывапісу. Але ні тугі, ні стогнаў па страчанай старасветчыне ў яго не было (у чым вінавацілі яго тагачасныя крытыкі). Мяняць тэму ды падстройвацца ён не збіраўся. За выключэннем хіба экспромт-перфомансу ў Вятцы ў 1920 годзе, калі з'явіўся на афіцыйным савецкім мерапрыемстве ў галіфэ з ботамі ды гімнасцёрцы, перацятай партупеяй.

Інтэр'еры яго, як піша Маліноўская-Франке, — «сапраўдныя адкрыцці, што набылі рысы панадчасовасці». Надзвычайную ўвагу ва ўсіх сваіх творах Жукоўскі надае святу і паветру, але не атаясамліваецца з імпрэсіяністамі. Краявіды яго маюць «натурны характар», колішнія сядзібы, паркі і інтэр'еры паўстаюць перад гледачом з расчыненымі вокнамі ці дзвярыма, нібы прапануючы другі план рэчаіснасці.

Але ўсё ж найбольш істотным для мастака было адлюстраванне духоўнага стану інтэр'ера, генетычныя «ўспаміны пра бацькоўскі дом і адчуванне цёплай аўры матчынай прысутнасці ў ім». Як след, ён выбіраў сядзібы, што набліжалі і ажыўлялі ўспаміны пра родны дом, трымаліся каранямі за радавое.

## Пралескі

Улюбёным месцам адпачынку Жукоўскіх — Станіслава з другой жонкай Соф'яй Паўлаўнай і сям'ёй хворага брата Баляслава — цягам амаль 20 гадоў было ўзбярэжжа Молдвінскага возера, што на Тамбоўшчыне. Тут напрыканцы зімы арандавалі яны сядзібу. Тут Станіслаў знаходзіў натуру: краявід ці ўдалае спалучэнне яго з інтэр'ерам. І пісаў. Энергічна і шмат, іншым часам па некалькі работ на дзень. У Вятцы ў 1920 годзе, калі цкаванне «буржуйскага» мастака набліжалася да свайго апагея, ён змушаны быў пісаць уначы. Па некаторых звестках, за жыццё Станіслаў стварыў каля 600 твораў.

На ўзбярэжжы Молдвінскага возера марыў ён пра надыход вясны, якая з дзяцінства атаясамлівалася з блізкімі, родным домам, з квітненнем пралесак, з Вялікаднём...

Сяброўка дачкі брата Станіслава, гімназістка Марыя Антановіч згадвала, як яны ўсе разам, напрыканцы зімы 1917 года, «яшчэ па снезе» хадзілі ў лес капаць лукавінкі пралесак, як песцілі і даглядалі іх у спадзеве, што расквітнеюць менавіта на Вялікдзень...

Але палатно Станіслава Жукоўскага — «Пралескі» было напісана раней, што вядома з каталогаў — у 1909-м, 1910-м гадах ва Усясвяцкім. Гэта прыгожая і натхнёная рэч набывае яшчэ больш загадковасці, калі даведваешся, што пісалася яна ў розных варыянтах ці не цягам усяго жыцця (1902–1903, 1909–1910, 1917, 1931–1932 гадах).

Мо дзякуючы гэтай акалічнасці Нацыянальны мастацкі музей Беларусі мае карціну «Першыя прадвеснікі вясны. Пралескі» ў сваім зборы, але чамусьці не паказвае яе ў экспазіцыі.

Як бы ні шукаў Жукоўскі сюжэтна-вобразнае рашэнне твора, дзе б ні месцілася скрыня з квітнеючымі пралесачкамі — злева, справа ці ў цэнтры — усюды кветкі з'яўляюцца сэнсаўтвараючымі, акцэнтаванымі не падтрыманым колерам. У творы, дзе краявід каларыстычна паяднаны з інтэр'ерам, вакно (не ва ўсіх зачыненае) уяўляе мяжу: цёплага і халоднага, унутранага і вонкавага.

Карціна «Пралескі» як бы адчыняе новы перыяд — «інтэр'ерны», становіцца сюжэтам, нітуючым яго з краявідам і нацюрмортам, але чым жа тады растлумачыць зварот Жукоўскага да гэтай тэмы ў Варшаве ў 1932 годзе?

## На другім беразе

У 1923 годзе Станіслаў Жукоўскі не вытрымлівае вонкавага ціску і, прыхапіўшы з сотню сваіх твораў, з'язджае. Напачатку ў Варшаву, дзе перш за ўсё адведвае цэнтральны мастацкі салон і яго гаспадара, свайго даўняга прыяцеля Фелікса Рыхлінга, сына кракаўскага музыканта (1874–1944).

Перапіска Жукоўскага з гэтай неардынарнай асобай ляжыць у Варшаве і толькі апошнімі часамі расчытаная Н. Маліноўскай-Франке. Пазнаёміўся і блізка сышоўся Станіслаў і з мастацка-культурніцкай суполкай Pro-Arte, якую ўтварыў яшчэ ліцвін Генрых Вейсенгоф — мэтай якой было «развіццё рэалістычных традыцыяў, згодна з духам народа».

Часта выязджаў на натуру ў родныя сэрцу ваколіцы — Свіслацкую (Белавежскую) пушчу, Панямонне, Падароск (былы маёнтак сям'і Чачотаў), Рось, Гарнастаевічы і інш. У 1932 годзе ён пакажа ў «Захэнце», у Таварыстве заахвочвання мастацтваў сваю адмысловую выставу «Неман». 28 твораў, якія не толькі «апявалі», але і эмацыйна акрэслівалі адносіны мастака да радзімых мясцін: «Пахмурны дзень», «Човен на Нёмане», «Восень», «Нёман. Летні ранак» і г.д. Дарэчы, як сведчыць Маліноўская-Франке, творы з гэтай нізкі і зараз часцяком мільгаюць на мастацкіх аўкцыёнах. Не дзіва, бо работы па-сапраўднаму цікавыя і зразумелыя перадусім на Радзіме.

У «Захэнце» ён выстаўляўся штогод, а то і некалькі разоў на год аж да 1939 года. У Польшчы Жукоўскі быў яшчэ раз уганараваны акадэмічным званнем.

Нельга сказаць, што жылося яму бесклапотна і лёгка. Хапала рознага. Але калі ў 1930-я гады ў ягонай варшаўскай кватэры з'явіўся сталінска-бальшавіцкі эмісар — мастак Бродскі, на яго ўгаворы вярнуцца ў СССР Станіслаў Жукоўскі адказаў адмовай.

Сваю сямідзясятую вясну Станіслаў Жукоўскі сустрэў пад нямецкай акупацыяй, і ў скрушную хвіліну не мог не быць на барыкадах падчас Варшаўскага паўстання. Пасля яго задушэння быў схоплены гестапа. Загінуў восенню 1944 года ў Прушкоўскім лагеры смерці пад Варшавай.

Творы мастака, што былі — у майстэрні і дома, у салоне банкаўскага служачага Рыхлінга і іншых — загінулі ў полымі Варшаўскага паўстання.

# Песні Міколы Гайдука

Сяргей ЧЫГРЫН

**Ніхто з беларусаў Беласточчыны так не любіў беларускі фальклор, як Мікола Гайдук (1931–1998). Вынікам гэтай любові стаў выдатны дыск песень Беласточчыны, які выйшаў у Крынках. На дыску з назвай «Песні мае, песні...» запісана 22 народныя песні ў выкананні дуэта «Зараніца» ў складзе Іаанны Чабан і Галены Пухальскай.**

Калі мая 83-гадовая маці праслухала гэты дыск, сказала: «Уключы яшчэ раз паслухаць «Зялёны дубочак», «Рабіначку» і «Пасеяла агурочкі» — гэта песні маёй маладосці». І я зноў уключаў ёй дыск, а мама ўважліва слухала галасістых салістак, якія прыгожа спявалі песні Міколы Гайдука, і нібыта сама падпявала. Мама слухала, і на вачах у яе з'явіліся слёзы...

Толькі за запісы беларускага фальклору на Беласточчыне, па прапагандзе яго ў друку, Міколу Гайдуку трэба было пры жыцці даваць званне Народнага пісьменніка Беларусі. Дзіву даюся, калі ён паспяваў усё рабіць: збіраць, запісваць, апрацоўваць, друкавацца. Пагартайце тыднёвік «Ніва» за 1960–1980-я гады ці «Беларускі каляндар» за тыя ж гады, і вы ўпэўніцеся ў тым, як працаваў Мікола Гайдук і як трэба нам працаваць сёння на ніве беларускага фальклору, тым больш, што яшчэ жывуць беларусы канца 1920-х — пачатку 1930-х гадоў нараджэння, якія ведаюць народныя песні, прымаўкі, загадкі, легенды, паданні, казкі.

Гэта мы цяпер мала ведаем і рэдка спяваем нашы народныя беларускія песні. А Мікола Гайдук іх ведаў шмат. Ён апублікаваў больш за 700 сваіх запісаў беларускіх народных песень з нотамі (іх расшыфроўвалі Людміла Панько, Сяргей Лукашук, Эдуард Гойлік, Ян Бондар і іншыя кампазітары). Ён сабраў і апрацаваў зборнік казак і легенд «Аб чым шуміць Белавежская пушча» (Беласток, 1982). На польскай мове выдаў «Белавежскія паданні» (Беласток, 1990), на беларускай мове — кніжку легенд і паданняў «Белавежскія былі і небыліцы» (Мн., 1996). Са сваіх запісаў Мікола Гайдук уклаў том беларускай народнай творчасці (больш за 600 тэкстаў) «Песні Беласточчыны» (Мн., 1997), іх сістэматызаваў, напісаў уступны тэкст і каментар.

У той том увайшлі песні калядныя, шчадроўкі, юраўскія, траецкія, купальскія, пятроўскія, жніўныя, восеньскія, хрэсьбінныя, застольныя, жартоўныя, вясельныя (сватанне, запоіны, каравай, дзявочы вечар, пасад, сірочыя, прыпеўкі, пярэзвы) і іншыя. Змешчаны там таксама песні рэкруцкія, казацкія, чумацкія, любоўныя, сямейна-бытавыя, балады, гістарычныя і іншыя. Да шматлікіх тэкстаў дадаюцца ноты. Фальклорныя запісы Міколы Гайдука ўвайшлі таксама ў тамы беларускай народнай творчасці «Балады» (Мн., 1977–1978) «Легенды і паданні» (Мн., 1983), «Вяселле. Песні» (Мн., 1986–1988).

Гартаю тыднёвік «Ніва» і чытаю даследчыя артыкулы Міколы Гайдука, прысвечаныя беларускім народным песням: «Вясна ў беларускіх народных песнях Беласточчыны» (1963, 4 красавіка), «Каляды ў народных песнях Беласточчыны» (1965, 7 студзеня), «Дажынкі ў фальклоры» (1971, 15 жніўня) і г.д. А ў «Беларускім календары» — артыкулы за артыкуламі па даследаванню беларускіх народных песень. У «Беларускім календары» за 1987 год чытаю артыкул «Песні тых часоў» пра Веру і Уладзіміра Хомікаў са Слоі, пра іх лёс і любоў да народнай песні. Ад Уладзіміра Хоміка Мікола Гайдук запісвае песні, з якімі той «ідзе праз усё працавітае і руплівае жыццё». А мелодыі песень расшыфроўвае былы дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук. Вось як гучыць першая страфа з песні «Вялікодная»:

*Васёлы дзень паном настаў —*
*Пірог з гусём з пячы дастаў,*
*Васёлы дзень,*
*Васёлы дзень!..*

А ў «Беларускім календары–1981» Мікола Гайдук у матэрыяле «Пакуль сонца зыйдэ...» распавядае пра дзвюх жанчын з вёскі Мікулічы, што ў Мілейчыцкай гміне, — пра Ніну Такаюк і Яўгенню Вішэнка. Ад іх фалькларыст запісвае ў 1979 годзе вязанку песень. А мелодыю рысшыфроўвае Ян Бондар.




Гэта некалькі балад, жартоўных, вясельных, жніўных песень. Адна з балад пачынаецца жартаўліва:

*Ой, умру я, умру та й буду дывытысь,*
*Чы будэ мой мілы по мніе шчэ й журытысь.*
*Мілы зажурыўся — шчэ й сіеў, подголіўся:*
*Коб тую сховаты, хутчэй бы жыныўся!..*

І калі Міколам Гайдуком пры жыцці было запісана больш за 700 беларускіх народных песень з нотамі, а на дыску «Песні мае, песні...» змешчана толькі 22, то неабходна яшчэ выпускаць каля 30–35 дыскаў з песнямі Міколы Гайдука. А гэта будзе цэлая фанатэка і адначасова памяць пра беларуса з Беласточчыны. Тым больш, што добры пачатак ужо зроблены.

## Новая генерацыя, змяні свой погляд




**16 траўня а 19.00 у «Моладзевым тэатры эстрады» адбудзецца незвычайны канцэрт дзяцей для дарослых.**

Лаўрэаты Міжнародных конкурсаў, Кубка Еўропы, аўтарскіх музычных праграмаў, гэтыя маленькія ўдзельнікі ўжо даўно спяваюць лепш за дарослых, а галоўнае — значна вальней, смялей і цікавей.

Іх аб'ядноўвае міжнародны фестывальны рух «Slavic Music Fest», скарыўшы сваім дэвізам: «Традыцыі і сучаснасць». А два вядомых педагога папросту змяшалі ўсе стылі і кірункі музыкі: фольк, этна-джаз, гіты еўрапейскай і амерыканскай поп-культуры, каб для вас гэтым вечарам прагучала ўсё — ад традыцыйнай музыкі Беларусі да сучаснай эстрады. А напрыканцы — святочны бонус.

Праект Ірэны Катвіцкай і Лізаветы Паповай.

Канцэрт ладзіцца пры падтрымцы грамадскай культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі».

## «Заспявай.by»: будучыня ёсць!

**31 канкурсант падаў сваю заяву на конкурс «Заспявай.by», які праводзіць партал Tuzin.fm і дабрачынны фонд «Вяртанне». З іх журы абярэ найлепшых. 3 песняй пераможцы папрацуе ўкраінскі саўндпрадусар Улад Ярун.**




Паводле ўмоваў конкурсу прымаліся заявы ад выканаўцаў ва ўзросце ад 15 да 25 год. Неабходна было даслаць песню на верш сучаснага паэта і на сваю арыгінальную музыку. Шмат хто вершаў не шукаў і прапанаваў да разгляду кампазіцыі ўласнага сачынення. Нехта звярнуўся да класікі, як 17-гадовы спявак Раман Волазнеў, які запісаў песню на верш Максіма Багдановіча. Нехта ўзяў словы сучаснікаў, як Віталь Варанко, што паклаў на музыку верш Віталя Рыжкова. На конкурс падаліся як ужо вядомыя спевакі, так і пачаткоўцы.

«Мы вельмі задаволены тым, што конкурс зацікавіў такую колькасць маладых творцаў. Маем сапраўды багаты выбар. Песні канкурсантаў вельмі абнадзейваюць і падмацоўваюць у думцы, што беларуская мова, беларуская песня, беларуская паэзія можа натхняць да творчых эксперыментаў», — кажуць арганізатары конкурсу.

Усе песні ўважліва адслухае журы, якое складаецца ў асноўным таксама з маладых творцаў. У яго складзе: спявачка Паліна Рэспубліка, Віктар Рудэнка (спявак, кампазітар, лідар гурта «Rostany»), музыка і актор Vinsent, Алесь Кот-Зайцаў (вакаліст гуртоў «BosaeSonca», «Fridance»), Уладзь Лянкевіч (паэт, вакаліст гурту «Tonqixod»), Віталь Рыжкоў (паэт), Алесь Дземідзенка («Re1ikt»), Рома Жыгараў («Akute»), Алег Хаменка (лідар гурту «Палац», сустаршыня журы). Журы назаве тройку фаварытаў, з іх украінскі саўнпрадусар Улад Ярун («Океан Эльзи», «Ляпіс Трубяцкі», «Тік») абярэ тую песню, з якой будзе працаваць. Твор будзе сааранжаваны, запісаны ў прафесійнай студыі ў Мінску ды зведзены ў Кіеве. Пераможцаў таксама чакаюць спецыяльныя прызы.

**Спіс удзельнікаў конкурсу «Заспявай.by»:**

Раман Абакумаў, гурт «Няма назвы» (Вікторыя Антоненкава), гурт «Бачу ўпершыню» (Алесь Снег), «Групіроўка Белавежская пушча», Bigi, гурт «Час лайна», Паліна Цімохіна (Pauline), Арцём Даманоўскі, Ала Ерашэнка, Fly, Арцём Хандрыка, Юры Касцень (Sp Kava), «Кашалаты вох», Павел Козіч, Яўген Купчанка, Лізавета Леўчык, Марк Марко, Васіль Мялешка, Мікіта Найдзёнаў, Дзяніс Нікольскі, Зміцер Новаш, Артур Пажыдаеў, Арцём Шустаў, Аксана Сяргей, гурт «Sumarok», Ганна Тарасюк, Раман Волазнеў, Віталь Варанко, Дар'я Васюковіч, гурт «What IsYourNameAndy», Лілія Зайкоўская.

Тройка пераможцаў будзе абвешчана да 15 траўня на партале Tuzin.fm.

**Паводле budzma.by**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 597

Падпісана да друку 8.05.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.